# наша СВАБОДА

№43 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

25 ЛІПЕНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





# Адысея Алега Батурына

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Апошнія прыгоды былога старшага лейтэнанта міліцыі Алега Батурына з ягоным «выкраданнем спецслужбамі» і «сенсацыйнымі прызнаннямі» выклікаюць у грамадстве неразуменне таго, што ж адбылося на самай справе. Давайце паспрабуем разабрацца ў гэтай сітуацыі разам.**

Як вядома, у лютым гэтага года «Народная воля» надрукавала адкрыты ліст старшага лейтэнанта міліцыі А.Батурына «Господа офицеры, хватит быть рабами!» У ім міліцыянт паведамляў, што падчас «Маршу Свабоды» 17 кастрычніка мінулага года дзеянні натоўпу, які атакаваў шэрагі спецназаўцаў, накіроўваліся і правакаваліся сакрэтнымі супрацоўнікамі службаў правапарадку. Ён распавёў таксама пра ўласныя дэструктыўныя дзеянні падчас «Маршу Свабоды», якія ён мусіў учыняць па камандзе «зверху».

Трэба зазначыць: тое, што паведаміў Алег Батурын, даўно не з'яўлялася сакрэтам для абазнаных асобаў. Міліцыя і спецслужбы сапраўды маюць «сваіх людзей» паўсюль, і дзіўна было б, калі б ім не ўдалося «ўкараніцца» ў апазіцыйныя шэрагі.

Пра міліцэйскія правакацыі апазіцыя ведала і раней. Але Алег Батурын быў першы, хто адкрыта пра гэта паведаміў не невялічкаму колу змагароў за будучыню беларускай Бацькаўшчыны, але ўсяму народу. Натуральна, што сілавыя структуры мусілі ўчыніць нейкі крок у адказ.

Па-першае, МУС афіцыйна абвясціў, што А.Батурын ніяк не быў выкарыстаны падчас «Маршу Свабоды», а па-другое, у дачыненні да яго была ўзбуджаная крымінальная справа — за «паклёп». У такіх умовах яму было сапраўды небяспечна заставацца тут, і яму давялося пакінуць межы радзімы. Тым больш, што, не знайшоўшы яго, «людзі ў цывільным» перакінуліся на ягоных сваякоў.

Алег Батурын апынуўся ў Польшчы. Але там для яго таксама было небяспечна. І ў яго з'явіўся шанц атрымаць ад ЗША статус палітычнага ўцекача. З боку Злучаных Штатаў гэта была звычайная гуманітарная акцыя па выратаванні чалавека, жыццё якога магло апынуцца пад пагрозай. Амерыканская дзяржава імкнецца дапамагаць тым, хто церпіць ад таталітарных рэжымаў.



І вось тут пачынаецца незразумелае. У мінулую сераду былы міліцыянт аказваецца ў Мінску і распавядае па тэлефоне, што яго нібыта «ў Варшаве скралі спецслужбы, завезлі ў Беларусь, але ён ад іх уцёк». Потым цішыня на дзень, а ў шэсць гадзінаў ранку ў мінулую пятніцу — інтэрв'ю ў амерыканскай амбасадзе для журналістаў беларускага тэлебачання, што, аказваецца, беларускія спецслужбы ўжо ні пры чым. Пасля гэтага беларускія ўлады, кіруючыся «гуманнымі меркаваннямі», дазваляюць А.Батурыну беспераштодна пакінуць тэрыторыю Беларусі ў аўтамабілі амерыканскага амбасадара — пры тым, што ён мусіць пераследавацца як злачынец.

Чаму Алег Батурын аказаўся ў Мінску? Магчыма, што ён, чалавек, які адпрацаваў у беларускай міліцыі некалькі гадоў і ніколі не быў за мяжой, проста не змог прыстасавацца да мірнага жыцця ў суседняй краіне — ці проста чакаў нечага большага за свой учынак. Ёсць такая катэгорыя людзей, для якіх усё жыццё — гэта змаганне ці то на «нябачным фронце», ці то ў чарзе за малаком. Калі такі змагар трапляе ў выключна мірныя абставіны, яму становіцца блага, сэрца патрабуе «нечага». У Алега Батурына сэрца запатрабавала, відаць, новых прыгодаў. Бо, аказваецца, вельмі цяжка жыць без народнай увагі да сваёй асобы, ды яшчэ самому здабываць сродкі для жыцця. І адбываецца «выкраданне», з якога былы міліцыянт нібыта выходзіць героем і пераможцам. Але пасля аказваецца, што каб застацца жывым і на волі, трэба «пакаяцца» перад БТ.

У выніку А.Батурын нічога не выйграў ад свайго ўчынка, але даў у рукі ўладаў моцны козыр. Улады атрымалі магчымасць выкарыстаць А.Батурына, каб яшчэ раз адхрысціцца ад сапраўдных знікненняў апазіцыянераў. У сваёй заяве КДБ піша: «Выпадак з так званым «выкраданнем» А.Батурына — яшчэ адзін прыклад таго, якім чынам пэўнымі коламі ў краіне і за яе межамі ўчыняюцца спробы напаліць сацыяльна-палітычную сітуацыю ў рэспубліцы».

Цяпер улады імкнуцца давесці беларусам дзве рэчы. Першая: усе знікненні апазіцыйных палітыкаў — «ліпавыя». Маўляў, Віктар Ганчар і Юрый Захаранка самі сябе «скралі», прыхапіўшы яшчэ Анатоля Красоўскага; «выпадак Батурына» — яскравае таму пацверджанне. Занадта эмацыйны выступ А.Лукашэнкі па БТ у мінулы чацвер, калі ён вінаваціў ва ўсім ЗША і апазіцыю, упісваецца ў гэтую канцэпцыю.

Другая рэч, якую хочуць давесці беларускія ўлады: усё, што казаў Алег Батурын пра міліцэйскія правакацыі, — няпраўда. Бо цяпер ён відавочна змяніў.

Галоўнае тут — не пераносіць дзеянні аднаго чалавека, які, дарэчы, мае вельмі малое дачыненне да апазіцыі, на ўсіх. Як толькі Алег Батурын выступіў са сваім лістом, яму з усіх бакоў сталі пець дыфірамбы. Памыліліся. ■

## Недарэчная смерць на свяце пажарных

Кірэй МАНУЙЛАЎ

Трагічны выпадак адбыўся ў суботу на свята да Дня пажарных, што праходзіла ў мінскім парку імя М.Горкага. Падчас паказальных выступленняў абарваўся выратоўчы «рукаў» з аўталесвіцы – і 24-гадовы старшы лейтэнант 6-га атрада сталічнай пажарнай службы Віталь Рослік упаў на капот машыны з 18-метровай вышыні. З пераломамі касцей таза, траўмамі пазваночніка і галавы ён быў дастаўлены ў 2-ю гарадскую клініку, дзе праз чатыры гадзіны памёр.

Прадстаўнікі міністэрства па надзвычайных сітуацыях адмаўляюцца нешта паведамляць, пакуль не будзе праведзенае дэтальнае расследаванне трагічнага выпадку. Варта зазначыць, што трагедыя адбылася на вачах сотняў цікаўных. Сярод гледачоў дзейства былі таксама прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын і мэр Мінска Міхаіл Паўлаў. ■

## Кісяля паслалі за сем вёрстаў

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**Здаецца, уся краіна ўжо прызвычаілася да таго, што па пятніцах Аляксандр Лукашэнка па завядзёнцы займаецца кадравымі перастаноўкамі і адстаўкамі ў сваім атачэнні. Так у мінулую – з'явіліся новыя беларускія паслы ў Кітаі і Румыніі. Гэта колішнія першы намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Русакевіч і старшыня Белдзяржтэлерадыёкампаніі Рыгор Кісель.**

Пра адстаўку Р.Кісяля гаварылі і чакалі вельмі даўно. Краіну для амбасадарства яму шукалі ўжо каля года. Тым больш што ён і сам неаднаразова, у прыватнасці, у траўні, пісаў заяву аб звальненні. Але тады, увесну, калі ў якасці дзяржавы, вартай Р.Кісяля, фігуравалі некалькі цэнтральнаазіяцкіх рэспублікаў, А.Лукашэнка гэтую просьбу не задаволіў. Відаць, было вырашана падабраць яму за адданую службу іншы, больш прэстыжны варыянт. Варыянт аказаўся някепскі – Румынія, усё ж Еўропа.

Наўрад ці Аляксандр Лукашэнка звольніў Рыгора Кісяля таму, што незадаволены, як апошнім часам БТ трымала ягоны падаючы рэйтынг. Як магло – так і трымала. Р.Кісель проста засядзеўся: ён прыйшоў на гэтую пасаду яшчэ ў 1994 годзе. Гэта было ўзнагародай галоўнаму рэдактару газеты «Могилёвские ведомости» за тое, што выданне падчас прэзідэнцкай перадвыбарчай кампаніі актыўна падтрымлівала А.Лукашэнку.

Зараз на БТ гадаюць, хто заступіць на месца Рыгора Кісяля, бо спіс прэтэндэнтаў за доўгі час чаканняў, калі ён сыдзе, разросся да дзесятка асобаў. Называюцца прозвішчы галоўнага рэдактара «Советской Белоруссии« Паўла Якубовіча, цяперашняга і колішняга міністраў культуры Аляксандра Сасноўскага і Анатоля Бутэвіча, вядучага «Рэзананса» Аляксандра Зімоўскага (чаго супрацоўнікі тэлебачання асабліва баяцца). Аднак самымі верагоднымі кандыдатурамі падаюцца зямляк Лукашэнкі, кіраўнік Магілёўскага абласнога тэлебачання Ягор Рыбакоў (шлях Кісяля), а таксама намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Іван Пашкевіч (у якасці кампенсацыі за неажыццёўлены праект БТ-2), які, кажуць, тыдзень таму правёў шматгадзінную гутарку ў кабінеце аднаго з намеснікаў Кісяля. Ці не знаёміўся са станам справаў на будучым месцы працы?

Разам з тым цалкам мажліва, што старшыню тэлерадыёкампаніі прызначаць толькі пасля парламенцкіх выбараў – каго-небудзь з тых, хто з калялукашэнкаўскай чынавенскай абоймы раптам не патрапіць у «палату». А да гэтага кіраваць беларускім тэлебачаннем будзе які-небудзь «выконваючы абавязкі», напрыклад, сённяшні генеральны прадзюсер БТ Ягор Хрусталёў. ►

Заканчэнне на стар.3

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Сакрэтныя матэрыялы ЦРУ змясціў на сваім сайце ў Інтэрнеце амерыканец Джон Янг.** Адзін з іх, датаваны летам 1998 гда, інфармуе аб нарадзе кіраўнікоў амерыканскіх і японскіх спецслужбаў, дзе абмяркоўвалася, «як доўга прабудзе Ельцын ва ўладзе», і «дзейнасць расійскай мафіі ўнутры краіны і за мяжой». Разам з тым Янг апублікаваў сакрэтны даклад са спісам імёнаў і прозвішчаў, а таксама службовых тэлефонаў супрацоўнікаў японскай разведкі. Улады ЗША па просьбе японскага ўрада звярнуліся да ўладальніка сайта, каб ён прыбраў адтуль гэтыя дадзеныя. Але той адмовіўся, заявіўшы, што публікацыя падобных звестак «спрыяе лепшаму разуменню функцыянавання ўрадавых інстытутаў ЗША».

■ **Адміністрацыя прэзідэнта Тайваня не задаволіла просьбу прэм'ер-міністра Тан Фэя аб адстаўцы, які вырашыў пакінуць гэтую пасаду пасля таго, як у выніку стыхійнага бедства загінулі чатыры тайваньскія рабочыя.** У мінулую нядзелю, калі яны пракладалі каналізацыйныя камунікацыі на беразе рэчкі, рэчышча якой у выніку апоўзня ў гэты момант затапілі патокі гразі і гліны. Тры гадзіны падхопленыя такім патокам рабочыя змагаліся за сваё жыццё са стыхіяй. Выратавальнікі запрасілі на дапамогу верталёт, але камандаванне ваенна-паветранай базы, якая знаходзілася побач, адмовілася накіраваць лётны апарат, спаслаўшыся на інструкцыі, якія дазваляюць абслугоўваць толькі высокіх асобаў. Не ўдалося хутка адшукаць і паліцэйскі верталёт. Як вынік, рабочыя загінулі. Гэтая трагедыя спарадзіла цэлую хвалю крытыкі на адрас уладаў. Апазіцыя заявіла, што «паміж некампетэнтнасцю ўрада і забойствам няма розніцы».

■ **Дзве лялькі з выявай Маргарэт Тэтчар, якія здымаліся ў адным з вядомых ангельскіх сатырычных серыялаў «Спіцінг іміdж» былі выстаўленыя на продаж.** Калі яна была прэм'ер-міністрам, сталі самымі папулярнымі на інтэрнетаўскім аўкцыёне «Сотбіс» у Лондане. Першую купілі па рэкорднай у той дзень цане – за 15 тысяч долараў, другую – за 7,2 тысячы. Для параўнання марыянетку саліста рок-гурта «Ролінг стоўнз» Міка Джагера прадалі за 10,2 тыс. долараў, а лялек мужа і жонкі Рэйганаў – за 8,7 тысяч. Гаспадаром унікальнай калекцыі ёсць Роджар Лоў, адзін са стваральнікаў серыяла, які перастаў выходзіць на экраны 5 гадоў таму.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

985

# Самадэзінфекцыя

Аляксандр ДУБРАВІН

Ёсць задача і ёсць выканаўцы. Лукашэнка аб'явіў на 15 кастрычніка свае кішэнныя выбары і выканаўцы страсянуліся: засталося вельмі мала часу, каб выслужыцца перад рэжымам. Усе яны раптам пачалі выскокваць на паверхню, як бурбалкі, галасіць перад задуранай публікай на розныя лады: чаму канструктыўная апазіцыя «упускает реальный шанс»? Чаму яна не хоча гуляць з Лукашэнкам у падкіднога дурня? Чаму не ідзе на тыя «выбары»?

Апазіцыя спакойна ім адказвае: усе дурні ўжо вядомыя, засталося пачакаць, пакуль яны гэта ўсвядомяць. І таму залішне мітусіцца, збіраць «абшчэсцвенна-паліцічэскія дзіалогі», наганяць туману і смуроду. Мітусня, маўляў, і непакой душы. У нас свае планы і сваіх справаў па вушы. Лукашэнкі прыходзяць і адыходзяць, а Беларусь застаецца. Не чмурыце галавы сваімі забаўкамі! Па восені ў краіне голад будзе, акупацыя, а вы ўсё ў фанцікі дурэеце. Трэба вам тыя «палаткі». Хіба няма больш месца, дзе паспаць пасля абеду?

Але выканаўцаў гэтыя аргументы не пераконваюць, бо служба ёсць служба. Калі ты ўжо падпісаўся зямлю рогам рыць, дык давай, наярывай! Масква слязам не верыць!

Акрамя выканаўцаў, ёсць яшчэ прыстасаванцы, ёлупні і правакатары. Першыя пацеюць ад жадання куды-небудзь уціснуцца, каб толькі не працаваць. Хораша, думаюць, было б і нам парламентарыямі зрабіцца. Хоць у чорта лысага. Калупай сабе ў носе і ні за што не адказвай. Вырашай толькі свае ўласныя праблемы за дзяржаўны кошт.

Другія ўвогуле не разумеюць, што робіцца на свеце. Водзяць туды-сюды пукатымі вачыма, разявіўшы рот ды пускаючы слюні. Куды іх папіхнуць, туды і паваляцца.

Трэція бягуць на гукі бойкі. Іхняе шчасце і прызначэнне быць там, дзе сварацца, дзе рэжуцца, дзе напружанне. Для іх на першым месцы стаіць жывёльная цікаўнасць: загоняць сёння каму-небудзь нажа ў спіну ці не? І калі напал канфлікту слабы, дык апантана падкідаюць туды свае дровы: «Какая жэ вы апазіцыя, естлі не участвуеце в таком іспытаніі?».

Але ж у кожнага медаля ёсць два бакі. Станоўчы ў тым, што ў краіне энергічна пайшоў працэс кансалідацыі і ачышчэння дэмакратычных сілаў. Таму не замінайце палітыкам і журналістам праяўляць сваю сутнасць у вырашальны для краіны момант. Уважліва слухайце, чытайце, запамінайце прозвішчы і аргументы. Крышку пазней усё гэта спатрэбіцца.

# Іван Пашкевіч рвецца ў дэпутаты

Рыгор БУЯН

**Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты палаты прадстаўнікоў другога склікання пачынаецца толькі 6 жніўня, а Іван Пашкевіч ужо даўно пайшоў у свой электарат. На гэты раз – у вобразе каляндарыка з рэлігійнымі святамі.**

Намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта, дэпутат палаты прадстаўнікоў Іван Пашкевіч ужо публічна заявіў пра свой намер прэтэндаваць на дэпутацкае крэсла і прывілеі. У сувязі з гэтым Іван Іванавіч напрыканцы чэрвеня сустрэўся нават з А.Лукашэнкам, якога самым актыўным чынам падтрымаў увосень 1996 года. «Паколькі канстытуцыя не дазваляе сумяшчэнне пасадаў, парламент наш прафесійны, я вымушаны паставіць перад сабой задачу — ці працаваць у адміністрацыі прэзідэнта, ці абірацца ў парламент», — заявіў тады Іван Пашкевіч.

Кар'ерны рост Івана Пашкевіча пачаўся ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці ў 1995 годзе, калі ён стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета. Трэба падкрэсліць, што будучы дэпутат заваёўваў галасы выбаршчыкаў рознымі спосабамі, у тым ліку і з дапамогай ансамбля «Сябры», якога кандыдат вазіў з канцэртамі па раёне. Пасля рэферэндуму 96-га года Іван Пашкевіч апынуўся сярод 110 дэпутатаў палаты прадстаўнікоў.

Намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі падабраў зручны момант, каб збегчы з «лукашэнкавага карабля». У 2001 годзе заканчваецца тэрмін паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі нават па ўласнай канстытуцыі ўзору 1996 года. Між тым, абранне дэпутатам, няхай сабе і кішэннага, і бяспраўнага парламента, дае чыноўніку магчымасць застацца ва ўладзе як мінімум на тры гады болей.

Сёлета абедзве выбарчыя акругі Століншчыны аб'яднаныя ў адну – Столінскую з 62.800 выбаршчыкамі. Улады робяць стаўку на Івана Пашкевіча, так што падтрымка ягонай кандыдатуры з боку «вертыкалі», відавочна, яму забяспечаная. Аднак і сам Іван Пашкевіч не бяздзейнічае: ён ужо даўно запаланіў раён календарамі (у выглядзе кніжкі-разгорткі) рэлігійных святаў з выявай уласнай персоны. На другой староне – невялікі фотаздымак Івана Пашкевіча з надпісам «Счастья Вам в 2000 году!» і подпіс: «Ваш депутат И.И.Пашкевич». Трэцюю старонку займае пералік «двунадесятых и великих православных праздников» и «постов». Хто і якім накладам надрукаваў гэты твор – невядома. Бясспрэчна адно – падобны каляндарык мае практычна кожная сям'я Столінскага раёна. ■

Счастья Вам к 2000 году!

Ваш депутат И.И.Пашкевич

ДВУНАДЕСЯТЫЕ И ВЕЛИКИЕ ПРАВОСЛАВНЫЕ ПРАЗДНИКИ

ПОСТЫ

# Экспрэс-расследаванне

## Днямі справа Юліі Чыгір можа адправіцца ў суд

Алесь ПАЎЛОВІЧ

Фактычна ўжо завершанае расследаванне па справе Юліі Чыгір, якую абвінавачваюць у перашкодзе дзеянням і аказанні супраціўлення міліцыі. Следчыя выявілі супер-актыўнасць і за пару тыдняў сабралі «доказы» віны жонкі экс-прэм'ера. Юлія Чыгір кажа, што гэта ніякія не доказы, а голыя сцвярджэнні спецыяльна падабраных сведкаў. Цяпер яна лічыць, шо 19 траўня на ганку суда быў разыграны пэўны сцэнар. «Улады рыхтавалі правакацыю супраць нашай сям'і і цяпер рукамі Фрунзенскай пракуратуры спрабуюць схаваць сляды гэтай правакацыі. З відэастужак тых падзеяў добра бачна, як міліцыянты з дапамогай грубай сілы не пускалі маіх сыноў Аляксея і Аляксандра на працэс над бацькам, а гэта магло выклікаць пэўны адказ. Толькі маё ўмяшальніцтва сарвала гэтую правакацыю, і цяпер улады хочуць адыграцца на мне. Але хай не спадзяюцца, маіх слёз яны не пабачаць. Суд расставіць усе кропкі над «і», – перакананая Юлія Чыгір.

● Сляды «абдымкаў» маёрам Амельчанкам Юліі Чыгір

Следства, аднак, упэўненае, што суд паставіць кропку ў гэтай справе не на карысць абвінавачанай. Следчы па справе Дзмітрый Шкарбута кажа, што віна Юліі Чыгір у яго не выклікае сумненняў. ■

# «Непрыстойны» беларускі часопіс

Кірэй МАНУЙЛАЎ

Аб'яднанне дзяржаўных кнігарняў «Белкніга» адмовілася браць да продажу апошні нумар часопіса *ARCHE*, прысвечаны габрэйскай культуры ў Беларусі. Кіраўніцтва гэтага кнігагандлёвага прадпрыемства тлумачыць гэты выпадак тым, што на вокладцы часопіса змешчаная быццам бы занадта аголеная дзяўчына. Аднак такое «маралістычнае» рашэнне прымалася не экспертамі па эротыцы па нейкіх ваколэратычных крытэрыях, а, як кажа намесніца дырэктара «Белкнігі» Аксана Сліжова, «на вока», гэта значыць, на ўласны густ, «бо дзеці ж пабачаць». Здымак вокладкі, відавочна, паказвае недарэчнасць такой тэзы А.Сліжовай.

У якасці другой прычыны даводзіцца, што «Белкніга» наогул не мусіць займацца гандлем перыёдыкі, якой фармальна ёсць кнігападобны *ARCHE*. Але ж усе папярэднія нумары часопіса бралі і прадавалі, да таго ж, па словах А.Сліжовай, будуць браць і наступныя. Проста зараз тут не хочуць «дражніць гусей». Дарэчы, сама рэдакцыя *ARCHE* асабліва «Белкнігу» не вінаваціць, бо, маўляў, тая для беларускай літаратуры робіць шмат, і ў Беларусі больш-менш захавалася сістэма кнігараспаўсюджвання, зладжаная за савецкім часам. Ва Украіне, напрыклад, яна абсалютна разваленая: таму кнізе, выдадзенай у адным горадзе, не лёгка патрапіць у кнігарні другога. ■

# АГП пад пагрозай закрыцця

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Вельмі нечакана адна з трох вядучых апазіцыйных партыяў Беларусі – Аб'яднаная грамадзянская партыя — апынулася пад пагрозаю забароны.**

Упраўленне грамадскіх аб'яднанняў пры міністэрстве юстыцыі вынесла партыі на працягу аднаго тыдня два папярэджанні, а гэтага, згодна з беларускім заканадаўствам, дастаткова для таго, каб забараніць дзейнасць вышэйзгаданага грамадскага аб'яднання, а таксама аб'явіць пераслед па законе за сяброўства ў ім. Што ж так раззлавала мінюст, што выклікала небывалыя раней санкцыі?

Аказваецца, уся справа ў афіцыйнай эмблеме партыі – чырвоным кані на белым тле. Спачатку намесніку начальніка таго самага Упраўлення грамадскіх аб'яднанняў А.Каратковай не спадабалася тое, што электронны паштовы адрас партыі размешчаны на афіцыйных дакументах, дасылаемых у тым ліку і ў мінюст, занадта блізка да гэтага самага каня – эмблемы АГП, а дакладней, толькі на нейкі міліметр ніжэй самой эмблемы. У мінюсце палічылі, што такім чынам АГП выкарыстоўвае незарэгістраваную эмблему партыі і гэтым парушае патрабаванні артыкула 13 закона Рэспублікі Беларусь «Аб палітычных партыях».

Першае папярэджанне было датаванае 12 ліпеня, а ўжо праз пяць дзён прыйшло яшчэ адно, згодна з якім эмблема АГП на афіцыйным бланку партыі мае некаторыя адрозненні з формай партыйнай пячаткі. Прычым на вока гэтыя адрозненні знайсці практычна немагчыма.

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька адзначыў «яўны палітычны падтэкст вынесеных мінюстам папярэджанняў». «Мы ўжо пяць гадоў карысталіся гэтымі бланкамі і гэтай пячаткай, і ніякіх санкцыяў ці папярэджанняў не было. І раптам, калі АГП адмовілася ад удзелу ў восеньскім выбарчым фарсе, нас ставяць пад пагрозу забароны!», — кажа ён. ■

# Мінюст папярэдзіў «непісьменнае» ТБМ

Кірыла ПАЗЬНЯК

Таварыства беларускай мовы атрымала пісьмовае папярэджанне ад міністэрства юстыцыі. Там лічаць, што гэтая арганізацыя ў афіцыйнай перапісцы парушае ўласны статут і закон «Аб грамадскіх аб'яднаннях».

Па-першае, мінюст даводзіць, што ТБМ выкарыстоўвае назву, «не адпавядаючую статутнай». Па-другое, «на пячатцы арганізацыі размешчаная сімволіка, якая адрозніваецца ад зарэгістраванай». Разам з тым чыноўнікі звярнулі ўвагу «на граматычную памылку ў напісанні назвы сталіцы нашай краіны» (ТБМ піша Менск.)

Што, дарэчы, да сімволікі, то пячатка ТБМ адрозніваецца ад зарэгістраванага герба арганізацыі толькі дробнымі элементамі (на пячатцы няма «Пагоні» і бел-чырвона-белай стужкі), а па геральдычным законе на ёй дастаткова захаваць аснову малюнка. ■

# На кітайскім напрамку

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

Старшыня камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце Анатоль Красуцкі з прадстаўнікамі Савета рэспублікі зрабіў праваздачу перад журналістамі пра візіт афіцыйнай дэлегацыі 13-18 ліпеня ў Кітай.

Пад час сустрэчаў з кіраўніцтвам Усекітайскага народнага сходу, камісіяў па ўнутраных справах і юстыцыі адным з асноўных пытанняў было абмеркаванне магчымай узаемнай падтрымкі Беларусі і Кітая на міжнароднай арэне. Відавочна, карыстаючыся момантам, прадстаўнікі афіцыйнага Мінска не маглі не запрасіць кітайскіх парламентарыяў прыняць удзел у выбарах дэпутатаў палаты прадстаўнікоў 15 кастрычніка ў якасці назіральнікаў. А.Красуцкі адзначыў, што кіраўніцтва Усекітайскага сходу зацікавілася магчымасцю назіраць за восеньскімі выбарамі.

Немалаважнае значэнне пад час візіту надавалася эканамічным праблемам. Па словах старшыні камісіі па сацыяльных пытаннях Савета рэспублікі Інэсы Драбышэўскай, дэлегацыя пабывала ў спецыяльнай эканамічнай зоне Шэньчжэн (утворана ў 1980 годзе на месцы рыбацкага пасёлка, дзе пражываюць прыкладна 3,5 мільёна чалавек; сярэдні ўзрост – 27 гадоў). Зона стала палігонам, дзе, па словах А.Красуцкага, «на практыцы рэалізуюцца многія элементы рыначнай эканомікі, якія атрымліваюць далейшае распаўсюджванне ў іншых раёнах краіны». А перад прыездам беларусаў у Шэньчжэні адбылася прэзентацыя свабодных эканамічных зонаў Беларусі, на якой быў падпісаны шэраг дакументаў. Кітайцы выказаліся за ўстанаўленне пабрацімскіх сувязяў з адным з беларускіх гарадоў. ■

# Інструктаж ад Ярмошынай

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Беларусі Лідзія Ярмошына распачала выязныя мабілізацыйна-інструктыўныя нарады з Брэста. У бясплатна выдзеленай для гэтага зале паседжання аблвыканкама адбылася ідэалагічная накачка чыноўства з ліку апаратчыкаў гар- і райвыканкамаў, рэдактараў раённых газетаў і мясцовага радыё, а таксама членаў Беларускага патрыятычнага саюза моладзі. Госця са сталіцы адразу распавяла ім пра «хлебныя» ўмовы грамадскай працы ў выбарчых кампаніях.

Па словах Л.Ярмошынай, 80 тысяч чалавек, якія возьмуць удзел у абслугоўванні парламенцкіх выбараў, атрымаюць гарантаваны заробак на ўзроўні кіраўнікоў і супрацоўнікаў упраўленняў і аддзелаў арганізацыйна-кадравай работы. Гэты дадатковы прыбытак (ад 40 тысяч рублёў) не трэба будзе адлюстроўваць у дэкларацыі аб прыбытках, паколькі сваім адмысловым указам А.Лукашэнка дазволіў «утойваць» атрыманыя сумы нават ад падатковых інспектараў. Удакладняючы агульную суму бюджэтных выдаткаў на ўсю кампанію, Л.Ярмошына дазволіла сабе памыліцца: маўляў, грошай будзе ці 4 мільярды 26 мільёнаў, ці 4 мільярды 32 мільёны. Такая вось вольная разбежка ў велічыні сумы.

Калі Лідзія Ярмошына прамаўляла ў Брэсце, то ў Мінску яшчэ не высахла чарніла на рашэнні Цэнтрвыбаркама аб стварэнні пазабюджэтнага фонду для дадатковага фінансавання расходаў на падрыхтоўку і правядзенне выбараў дэпутатаў палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ. «У мінулы раз ніхто не даў ні капейкі, і цяпер не трэба спадзявацца», — канстатавала Л.Ярмошына. І як яна за трыбунай, так і ўсе ў зале іранічна заўсміхаліся — разумеюць, аднак, што нелюбімая гэта справа — загадзя непрызнаныя выбары. ■

# Восеньскі сцэнар беларускай апазіцыі

**Вольга АНЦЫПОВІЧ**

**Беларуская дэмакратычная апазіцыя вызначыла план сваіх дзеянняў на восень. Пра гэта паведаміў падчас прэс-канферэнцыі Каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька.**

Па яго словах, выбары ў палату прадстаўнікоў з'яўляюцца моцным палітычным сцэнарам, які выклікае ў грамадстве вялікі ўзровень чакання. Каб выкарыстаць дадзеную сітуацыю на карысць сабе, аб'яднаная апазіцыя падрыхтавала контрсцэнар, агульны план якога будзе складацца з трох частак.

Першай з іх стане усенароднае апытанне, якое, хутчэй за ўсё, будзе мець назву «Усенародны рэферэндум». Падчас яго грамадзянам будуць зададзеныя пытанні: ці падтрымліваюць яны чатыры патрабаванні, неабходныя для правядзення свабодных, дэмакратычных і справядлівых выбараў – вызваленне палітвязняў і спыненне палітычных рэпрэсіяў, прывядзенне выбарчага заканадаўства ў адпаведнасць з еўрапейскімі стандартамі, забеспячэнне рэальнага доступу апазіцыі да сродкаў масавай інфармацыі, якія кантралююцца дзяржавай, і наданне парламенту рэальных уладных паўнамоцтваў.

Па-другое, мяркуецца правядзенне шэрагу інтэлектуальных мерапрыемстваў, такіх, як беларуска-расійскі «круглы стол» па пытаннях узаемаадносінаў Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь, а таксама магчымы прыезд у Беларусь сусветнавядомых палітыкаў Леха Валенсы і Маргарэт Тэтчар.

Апроч таго, апазіцыя будзе рыхтаваць вулічныя акцыі, прымеркаваныя да асноўных падзеяў выбарчага марафону.

Галоўным сваім дасягненнем на дадзены момант Кардынацыйная рады дэмакратычных сілаў лічыць аднадначную вызначанасць пазіцыі адносна выбараў. Сёння апазіцыйныя партыі чарговы раз пацвердзілі сваё нежаданне прымаць удзел у парламенцкіх выбарах, якія мусяць адбыцца восенню гэтага года.

Дарэчы, як стала вядома, Мінскі гарвыканкам не дазволіў праводзіць святочныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да дзесятай гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь. Нагадаем, што 27 ліпеня аб'яднаная апазіцыя збіралася правесці мітынг і святочны канцэрт у парку імя Максіма Горкага. Улады ж адправілі апазіцыю святкаваць Дзень Незалежнасці на плошчу Бангалор. Там а 18-ай гадзіне адбудзецца рок-канцэрт. Але ўжо цяпер па горадзе распаўсюджваюцца ўлёткі з заклікам да грамадзянаў збірацца ў сераду ля парку М.Горкага а 17-ай гадзіне. ■




Фота Ул. ШЛАПАКА

# Кісяля паслалі за сем вёрстаў

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Вось як каментуе адстаўку Р.Кісяля колішні супрацоўнік БТ і вядучы праграмы «Асілак» Уладзімір Даўжэнка: «Кісель быў лішнім чалавекам на тэлебачанні, папаў сюды выключна за тое, што зямляк Лукашэнкі, і ў знак удзячнасці. Так яго маглі і ў Акадэмію навук узяць, карацей, куды заўгодна. Абсалютна нічога новага на БТ пры ім не з'явілася, а лепшае, што заставалася, паціху выцкавалася. Сітуацыя гаротная і ў фінансавым, і ў ідэйным, і ў кадравым плане. Прафесіяналы сышлі, а тыя, што засталіся, працуюць абы-як. Сярэдні аклад – 25 тысяч. Але замест Кісяля паставяць, на жаль, кагосьці падобнага, і палітыка на БТ не зменіцца. Прычым само грамадства яшчэ не саспела ні для новага прэзідэнта, ні для новага кіраўніка тэлебачання. Гэта павінна быць у першую чаргу асоба аўтарытэтная, інтэлігент, а потым ужо ўпраўленец. Як калісьці, напрыклад, Генадзь Бураўкін». ■

# Пракуратура абяцае знайсці зніклага аператара Д.Завадскага

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Прайшло 18 дзён, як у аэрапорце «Мінск-2» пры загадкавых абставінах знік аператар ОРТ Дзмітрый Завадскі. Кіраўнік карпункта ОРТ у Мінску Дзмітрый Наважылаў паведаміў нам, што па стане на ўчарашні дзень ніякіх новых звестак пра знікненне яны не маюць.



Фота НЕХ PreMedia

Тым часам, у нядзельным «Рэзанансе» на беларускім тэлебачанні выступіў транспартны пракурор Беларусі Мікалай Каралюк і заявіў, што ў хуткім часе пракуратура аператара знойдзе.

Мікалай Каралюк паведаміў, што ягонае ведамства мае поўныя «напрацоўкі» і праз кароткі час раскрые інцыдэнт з выкраданнем.

Транспартны пракурор таксама абвінавату кампанію ОРТ у тым, што яна «не зацікаўленая» ў супрацоўніцтве са следчымі органамі. Нагодай для такой заявы стала тое, што ў транспартную пракуратуру не звярнуўся супрацоўнік службы бяспекі ОРТ Яфімаў, які адмыслова прыбыў у Мінск для аказання прававой дапамогі па факце знікнення Д.Завадскага.

Са спасылкай на М.Каралюка вядучы «Рэзананса» Аляксандр Зімоўскі паведаміў, што ў Расіі ўжо затрыманы адзін дагестанец, які мог мець дачыненне да знікнення аператара. І дадаў, што невядомыя выкрадальнікі нібыта ўжо запатрабавалі за вызваленне Д.Завадскага 2,5 мільёны долараў і 2,5 тысячы долараў за відэаматэрыял, які б пацвярджаў, што тэлеапаратар знаходзіцца ў іх.

Між тым, гэтай заяве – як і ўсім іншым заявам сумнавядомага вядучага – можна верыць з цяжкасцю. Усе ведаюць, што гэта чалавек, інфармацыі з вуснаў якога давяраць немагчыма. ■

# Усиливается охрана государственных и коммерческих тайн

**Диана БАКАЕВА**

**В соответствии с положением Комитета РБ по печати №6, за периодическими и непериодическими изданиями будет осуществляться выборочный контроль с целью выявления фактов нарушения законодательства о защите тайн и иной, специально охраняемой законом информации. В качестве контролирующего органа уполномочен выступать Государственный комитет РБ по печати, в лице собственных специалистов в этой области.**

Контроль будет осуществляться путем отслеживания материалов в газетах, журналах и научно-технической литературе. В случае нарушения положения Государственный комитет по печати будет письменно ставить в известность об этом владельца информации и Комитет государственной безопасности РБ. Владелец информации представляет заключение экспертной комиссии о наличии в материале сведений, составляющих государственную тайну. На основании этого, а также вступившего в силу решения суда Государственный комитет по печати может вынести в адрес редакции (издателя) письменное предупреждение о нарушении закона «О печати и других средствах массовой информации». А производитель непериодического издания может быть лишен лицензии на право осуществления издательской деятельности, или ее действие будет приостановлено на определенный срок.

Те же действия в отношении редакции или производителя издания могут быть предприняты Комитетом по печати, если к ним с письменным заявлением и приобщенными документами обратятся юридические лица РБ, считающие, что в печатных изданиях опубликованы сведения, содержащие коммерческую тайну принадлежащих им предприятий или организаций.

Также предупреждение редакции (издателю) может быть вынесено на основании постановления суда в случае разглашения сведений, содержащих тайну частной жизни граждан, предварительного следствия, судебных дел, а также материалов, полученных в результате оперативно-розыскной деятельности. В случаях нарушения редакции (издателю), на основании вступившего в силу решения или приговора суда, будет выноситься предупреждение.

Письменное предупреждение, вынесенное в адрес редакции, может быть обжаловано в Высшем хозяйственном суде в течение одного месяца.

Будет отслеживаться также публикация незавершенных производством материалов дознания. ■

# Шлагбаўм на мяжы не ўзняўся

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

**З 1 жніўня на тры месяцы зачыняецца адзіны ў Гродзенскай вобласці аўтапераход на мяжы з Польшчай—Брузгі. Прапускаць легкавы транспарт і аўтобусы было вырашана праз грузавы аўтапераход Бераставіца. Каб апрабаваць пропуск машынаў і даць магчымасць кантрольным службам асвойтацца на новым месцы, узняць шлагбаўм хацелі за дзесяць дзён – 20 ліпеня. Пра гэта было шырока паведамлена ў *mass media*.**

20-га, аднак, атрымаўся канфуз. Нікога ў Польшчу, апроч TIR-аў, канечне, не прапусцілі. Адкрыццё адклалі яшчэ на тыдзень. Але не выключана, што і 27-га таксама мяжа застанецца «на моцным замку». Ва ўсякім разе такі сумнў выказала Беластоцкае радыё. Хроніка падзеяў 20-га была наступнай. У 8 раніцы дзяжурны міліцыянт паведаміў мне, што за суткі на Польшчу прайшло 85-90 аўтафураў, а з легкавікоў пакуль нікога не прапускалі. Маўляў, прыедзе ў 11 гадзінаў начальства раённае, «перарэжа стужку» і можна будзе ехаць. Дарэчы, усіх ахвотных пакуль адсылалі назад—за пасёлак Пагранічны, за 5 кіламетраў, каб чакалі там — да ўезду ў «памежную зону». Чакала 30 легкавікоў, большасць аўтападарожных не паверыла абяцанням і накіроўвалася ў той дзень па-ранейшаму ў Брузгі.

На час адкрыцця руху праз КПП «Бераставіца» туды раптам прыгналі аўтадарожную тэхніку. Пачалося пашырэнне і паляпшэнне дарогі! Неўзабаве прыехала начальства з Бераставіцы з самадзейнымі артыстамі ў фальклорных строях. Аднак іх завярнулі назад з-пад самага шлагбаўма, паколькі ад памежнага начальства са сталіцы раптам паступіў «адбой». Маўляў, няма тут умоваў для працы павялічанай змены памежнікаў. Можна падумаць, што нармальныя ўмовы можна будзе стварыць за наступныя некалькі дзён!

Іншыя службы таксама не раскашуюць. Будан ДАІ, напрыклад, узімку вельмі халодны. Грэць электрапечкай — занадта дорага аказалася для міліцыянтаў, якія спрабавалі прыладзіць буржуйку. Дарога не пашыраная, аб'язной няма. Прыбіральня толькі адна і — на аднаго чалавека. А з першага жніўня сюды рушаць тысячы машынаў і тысячы людзей. Беластоцкі ваявода К.Лукашук яшчэ 4 траўня прыязджала дамаўляцца з А.Дубко наконт КПП «Бераставіца», з'ездзіла сама туды. Аднак з таго часу нашы нічога не зрабілі, хаця ведалі, што пакуль палякі будуць разбудоўваць са свайго боку Брузгі-Кузніцу, усё адно давядзецца ўвесь транспарт накіраваць менавіта ў Бераставіцу. Іншага выйсця няма.

І яшчэ аб адным казусе. 19 ліпеня па райцэнтры Бераставіца ўвечары кружыў на машыне жыхар Польшчы, які шукаў памежны пераезд пад такой назвай. Ён быў вельмі абураны, калі даведаўся ад дзяжурнага ДАІ, што памежнае КПП знаходзіцца ў зусім іншым месцы, і да яго трэба яшчэ праехаць 13 кіламетраў. Рэч у тым, што ў цяперашнім Бераставіцкім раёне заўжды існавалі Малая Бераставіца і Вялікая, якая з'яўляецца райцэнтрам і якую звычайна называюць проста Бераставіцай. Было таксама трэцяе мястэчка, якое так і называлася — Бераставіца. Яе Саветы перайменавалі раптам пасёлкам Пагранічным, але КПП памежнае каля яго так і засталося са старой назвай — «Бераставіца». Так што тут без бутэлькі, як той казаў, не разабрацца.

Дарэчы, дарога з Гродна да Беластока — праз Бераставіцу павялічыцца для падарожных на 50 кіламетраў. Па прагнозах, чэргі на КПП «Бераставіца» будуць большымі, чымсьці сёння ў Брузгах. Чакаць, ва ўсякім разе, у чарзе давядзецца, хутчэй за ўсё, больш. ■

# Расійскія амбасадары не хочуць вучыць мову

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**У суседняй Украіне можа распачацца дыпламатычны скандал. Шэраг арганізацыяў патрабуюць абвясціць амбасадара Расіі ў гэтай краіне Івана Абоімава «персонай нон грата» — за «антыдыпламатычныя паводзіны і правакацыйныя заявы пра міжнацыянальную сітуацыю ва Украіне». Пра гэта паведамілі некаторыя сродкі масавай інфармацыі.**

У мінулую пятніцу на прэс-канферэнцыі дэпутат Вярхоўнай Рады ад Украінскага Народнага Руху, лідэр Усеўкраінскага таварыства «Просвіта» імя Тараса Шаўчэнкі Павел Моўчан зрабіў заяву ад імя самой «Просвіты», а таксама Руху, Кангрэса ўкраінскай інтэлігенцыі і Украінскай нацыянальнай кансерватыўнай партыі. У сваім выступе П.Моўчан падкрэсліў, што Іван Абоімаў дазволіў сабе «недыпламатычны выпад», калі зрабіў заяву пра апошнія дзеянні львоўскіх уладаў.

Як мы ўжо паведамлялі, напачатку траўня ў адным з львоўскіх кафэ адбылася бойка, у выніку якой загінуў вядомы ўкраінскі кампазітар Ігар Белазір. Канфлікт пачаўся з-за гучаўшай у кафэ расійскай блатной песенькі, і таму львоўскія ўлады забаранілі выкананне ў публічных месцах горада рускамоўных «шэдэўраў». Гэта вельмі не спадабалася расійскаму амбасадару.

Павел Моўчан заявіў, што І.Абоімаў дзейнічае як «прадстаўнік ЦК, адстойваючы на тэрыторыі Украіны выключна расійскія імперскія інтарэсы». На думку дэпутата, амбасадар «дэзінфармуе кіраўніцтва Расіі наконт рускамоўнага становішча ва Украіне» і гэтым стварае небяспеку для ўкраінска-расійскіх стасункаў. П.Моўчан адзначыў таксама, што пасля года працы ва Украіне Іван Абоімаў не вывучыў дзяржаўнай мовы краіны, дзе ён працуе, а гэта па дыпламатычных канонах з'яўляецца прэцэдэнтам для ягонага адклікання з пасады амбасадара. Як стала вядома, да Украіны І.Абоімаў працаваў у Іспаніі і Фінляндыі і там размаўляў на мовах гэтых дзяржаваў.

Дарэчы, у сакавіку споўніўся год, як у Мінску працуе Надзвычайны і Паўнамоцны амбасадар Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Вячаслаў Далгоў. Яшчэ ніхто не чуў, як ён гаворыць па-беларуску — прынамсі, публічна. Канешне, інтэграцыя інтэграцыяй, але як жа павага да нацыянальных традыцыяў краіны, дзе ён цяпер працуе? ■

# Верховный суд Чили обсуждает судьбу генерала Пиночета



Верховный суд Чили провел заседание за закрытыми дверями, на котором обсуждалась возможность привлечения бывшего военного правителя генерала Аугусто Пиночета к суду по обвинению в нарушении прав человека. Суд рассматривает апелляцию А.Пиночета на постановление суда низшей инстанции, который принял в прошлом месяце решение о лишении его парламентской неприкосновенности. Это позволяет провести судебное разбирательство по более чем 140 уголовным обвинениям, в том числе и одному из самых скандальных эпизодов – деятельности «каравана смерти», который расправлялся с политическими противниками с ведома чилийского диктатора. Так называемый караван смерти прошелся вскоре после организованного генералом военного переворота по нескольким чилийским городам. Как утверждают обвинители А.Пиночета, «караван» казнил 72 политических узников тюрем. Кроме того, сообщает агентство ЭФЭ, по некоторым данным, его жертвами стали еще 19 человек. Несмотря на то, что сам бывший правитель не присутствовал на суде, толпы его сторонников и противников устроили манифестацию около здания. В ходе заседания 20 членов Верховного суда проголосовали за отклонение просьбы адвокатов генерала о проведении его медицинского обследования. Суд не установил точного срока разбирательства, однако, как подчеркнул главный судья Эрнан Альварес, решение будет вынесено как можно скорее. ■

**ИНТЕРФАКС**



# Российская наука и ее перспективы

**Сергей КАПИЦА,**
**Институт физических проблем им П.Л. Копицы, РАН**

**Современное состояние российской науки определяется теми процессами, которые проходили в течении последних десяти лет. За это время из-за недальновидной политики затраты на научные исследования сократились более чем в 20 раз. Результатом этого стало не только сокращение тех, чрезмерно раздутых отраслей, связанных в первую очередь с оборонной промышленностью, но и практически всех других отраслей науки, в том числе медицины и здравоохранения. В значительной мере прекращены океанографические и геологические исследования, традиционно хорошо развитые.**

К сожалению, понимание того места, которое естественные науки занимают в современном мире, совершенно недостаточно. Отсутствие политики в области науки и техники стало характерной чертой всего пореформенного времени. И сегодня, с приходом нового правительства, произошла очередная перекройка министерств, и наука вновь оказалась бесхозной. Несмотря на заявленное в бюджете финансирование науки, он ранее не выполнялся, и надежд на то, что станет лучше, практически нет. Средства же, распределяемые фондами, недостаточны, несмотря на то, что за последние годы сделано многое для повышения эффективности грантов. В эти годы большую роль сыграла помощь и понимание мирового научного сообщества. Значительную помощь оказал фонд Сороса, вложивший в русскую науку и культуру 750 миллионов долларов.

В новых условиях перед русской наукой была поставлена задача интегрирования в систему высшего образования. Это давно сформировавшееся и традиционное разделение науки и образования пока не преодолено. Также не найдены возможности для поддержки прикладной науки со стороны нового русского капитала и промышленности, в которой процессы реструктуризации и технологического обновления идут очень медленно.

Поскольку Россия теперь стала открытой страной, наша наука интегрируется в мировую науку. Результатом этого стал значительный отток русских ученых в другие страны. В первую очередь он затронул высококвалифицированных ученых среднего возраста. Частично причиной их ухода была невозможность полноценных научных контактов в прошлом. Однако практически полное отсутствие поддержки науки, особенно в первые годы реформ, заставляло многих ученых эмигрировать. Ведь и сегодня средняя зарплата профессора университета часто меньше официального прожиточного минимума. Именно это вынудило многих ученых оставить науку и искать средства к существованию в предпринимательстве, банках, издательском деле, торговле.

При этом в первую очередь страдают фундаментальные исследования. Такие работы, имеющие большую длительность, в тоже время именно они оказывают значительное влияние на всю науку, культуру и образование, были характерной для нашей страны. Часто такие направления, созревающие годами если не десятилетиями, были обязаны личности крупного ученого, определявшего научный, а часто и этический уровень – то, что привлекало последователей, молодых ученых. Эта – европейская – традиция научных школ распадается.

Однако, более всего критично положение молодых ученых. С точки зрения автора, от решения судьбы нового поколения ученых зависит не только судьба науки, но и самой страны. Способный молодой научный работник, окончивший университет, получил хорошее, даже прекрасное по мировым стандартам образование. Он предан науке, несмотря на все трудности, защитил диссертацию, однако, он практически лишен будущего как ученый у себя на родине. Обратимся к примеру. В течение 35 лет я заведовал кафедрой физики Московского физико-технического института, вполне аналогичного Массачусетскому технологическому институту. За последние 10 лет из МФТИ в США уехало 1.500 наших выпускников. Подготовка одного такого ученого и инженера, по общепринятым оценкам, стоит около миллиона долларов. Иными словами, только из одного, пусть и лучшего института, Россия поставила в США специалистов более чем на миллиард долларов!

В России не только нет условий для развития науки – ведь указанные научные и инженерные работники нужны не столько для воспроизводства науки, но в первую очередь для развития новых технологий и производств. Так, в России не развита система венчурного капитала — авансирования обещающих новых научных разработок и изобретений. Нет не только финансовой и налоговой поддержки, но и необходимой для этого инфраструктуры.

В науке своеобразно сочетаются демократия научного сообщества и правота того, кто открыл новое. В области ее организации сочетается диктатура разума и свобода идей. Сегодня надо примирить холодный расчет эффективности рынка и непредсказуемое, но никогда не изменяющее нам удовлетворение от открытия тайн природы, успех в использовании познанного. Эти обстоятельства всегда сопровождали развитие науки, однако, сейчас они до предела обострены. От их разрешения зависит не только наше будущее, но в значительной мере и будущее мировой науки и самого мира. ■

© **Project Syndicate**

# Брытанія змагаецца з вычварэнцамі



**Ірына СТАРЦАВА**



Сара Пэйн

У мінулую нядзелю брытанскі таблоід *News of the World* пачаў публікацыю фотаздымкаў і імёнаў асобаў, якія былі ў свой час асуджаныя за ўчыненне сексуальных злачынстваў у дачыненні да непаўналетніх. У першым нумары газеты з'явілася 49 партрэтаў педафілаў, якія занялі цэлую паласу. Выданне таксама адкрыла сайт у Інтэрнеце, на якім можна пабачыць раён, дзе жыве кожны з гэтых людзей. Рэдакцыя плануе праводзіць акцыю да таго часу, пакуль не апублікуе ўсе 110.000 партрэтаў патэнцыйна небяспечных асобаў.

Што ж надарылася? 1 ліпеня гэтага года ў графстве Ўэст Эсэкс на поўдні Англіі пры невядомых абставінах знікла васьмігадовая дзяўчынка Сара Пэйн. Праз два тыдні яе агаленае цела было знойдзенае ў 25 кіламетрах ад таго месца, адкуль яна магла знікнуць. Гэтае забойства ўскалыхнула ўсю Вялікабрытанію. Супрацоўнікі таблоіда вырашылі зрабіць свой унёсак у кампанію супраць педафілаў. Па словах прадстаўнікоў *News of the World*, яны ні ў якіх выпадках не жадаюць, каб іхнія сутрамадзяне ўчынялі самасуд. Тым не менш, людзі мусяць быць папярэджаныя, што недзе побач можа аказацца маньяк. Адрасы небяспечных асобаў у таблоідзе не ўказваюцца, але пры жаданні кожны можа адкрыць тэлефонны даведнік і знайсці іх.

Тым часам, прадстаўнікі арганізацыі па рэабілітацыі былых асуджаных сцвярджаюць, што дзеянні выдання наносяць толькі шкоду. Маўляў, у выніку могуць пацярпець невінаватыя людзі, тады як сапраўдны злачынец замяце сляды ці перачакае пэўны час, перш чым пайсці на новыя вычварэнні. ■

# Скарбы на борце «Тытаніка»

**Міхась КАРПОВІЧ**

У нядзелю пачалася першая ў гісторыі аперацыя пра пранікненні ў памяшканні суперлайнера «Тытанік», які патануў у 1912 годзе. Як паведаміла агенцтва BBC, нягледзячы на пратэсты адзінай жывой пасажыркі легендарнага карабля, што, маўляў, трэба пакінуць брацкую магілу больш чым тысячы чалавек у спакоі, валалазы збіраюцца апусціцца на дно Атлантычнага акіяна і паспрабуюць даследаваць абломкі судна. Яны будуць кіраваць тымі самымі падводнымі лодкамі, якія выкарыстоўваліся пры здымках фільма «Тытанік» і адмыслова распрацаваным пагружальным апаратам для пранікнення ў камеры захоўвання карабля. Вадалазы спадзяюцца знайсці каштоўныя рэчы, што належалі пасажырам, а таксама вахценны журнал з запісамі, якія могуць адносіцца да апошніх хвілінаў плавання карабля. ■

# Шампунь «левы» і «правы»

**Ірына СТАРЦАВА**

Паліцыя Эстоніі вынайшла і канфіскавала буйную партыю фальшывага шампуню *Head & Shoulders*.

Як паведаміла буйнейшая эстонская газета *Postimees*, у пасёлку Кадрына (Kadrina) месціўся сапраўдны падпольны завод па вырабе «левага» шампуню. Падчас паліцэйскай аперацыі было канфіскавана больш за 60 тысяч бутэлек падробкі, іх рынкавы кошт склаў каля 1,8 мільёна эстонскіх кронаў (амаль мільён долараў). Адмыслова выкліканы са Злучаных Штатаў камерцыйны дырэктар па краінах Балтыі канцэрна *Procter & Gamble* Эганс Плаўніекс быў моцна ўражаны, калі пабачыў наладжаную ў Эстоніі вытворчасць. Ён зазначыў, што фальшывы шампунь у свеце знаходзяць 3-4 разы на год, але ў асноўным гэта невялікія партыі. Паводле дадзеных паліцыі, пластыкавыя бутэлькі для мыючага сродку былі выраблены ў Эстоніі, а паходжанне самога шампуню цяпер высвятляюць спецыялісты і прадстаўнікі закона. Яны не выключаюць, што ў Эстоніі разліваўся бракаваны сродак для валасоў, які быў нелегальна ўвезены на тэрыторыю краіны з-за мяжы. ■

# Мільярд долараў — на памяшканне ААН

**Міхась КАРПОВІЧ**

Арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў рыхтуецца да абнаўлення сваёй штаб-кватэры ў Нью-Йорку. У будынку на рацэ Іст-Рывер рамонт не праводзіўся з таго часу, як ён быў узведзены 50 гадоў таму. На рэканструкцыю спатрэбіцца, паводле розных ацэнак, ад 800 мільёнаў да 1 мільярда долараў. Такіх грошай ААН пакуль не мае – прынамсі, на гэтыя мэты. Тым не менш, чыноўнікі міжнароднай арганізацыі спадзяюцца на фінансавую дапамогу ЗША – бо Злучаныя Штаты вінаватыя Аб'яднаным Нацыям значна большую суму.

Разам з планам генеральнай рэканструкцыі разглядаецца яшчэ і іншы варыянт – пашырэнне комплекса ААН за кошт пабудовы новых офісаў непадалёк, паведамляе агенцтва *Associated Press*. ■

# «Мы хочам жыць дружалюбна з Расіяй, але незалежна»

Рыгор БУЯН

**29 ліпеня ў Палацы культуры тонкасуконнага камбіната «Сукно» ў Мінску пройдзе Усебеларускі з'езд. На форуме плануецца выпрацаваць і прыняць Акт Незалежнасці – сведчанне і імкненне народа захаваць самастойнасць краіны.**

**Напярэдадні падзеі карэспандэнт НАШАЙ СВАБОДЫ ўзяў інтэрв'ю ў сустаршыні з'езда прэзідэнта Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» акадэміка НАН Радзіма Гарэцкага пра мэты форуму.**



***– Радзім Гаўрылавіч, першы Усебеларускі з'езд прайшоў у снежні 1917 года. Як вядома, з яго пачалося адраджэнне дзяржаўнасці Беларусі. І вось склікаецца другі Усебеларускі з'езд. Цяпер гаворка ідзе пра пагрозу суверэнітэту нашай краіны. Няўжо небяспека быць паглынутай Расіяй настолькі рэальная?***

– Назва форуму гаворыць сама за сябе: «Усебеларускі з'езд за незалежнасць». Калі пачытаеш дзяржаўную прэсу, паслухаеш радыё і тэлебачанне, то можна падумаць, што ўсе 100% беларусаў толькі спяць і мараць трапіць у абдымкі Расіі. На самой справе гэта не так. Адна з мэтаў з'езда – паказаць гэта і насельніцтву Беларусі, і іншым краінам, у першую чаргу той жа Расіі. Кіраўніцтва Расіі і Беларусі падпісалі, здаецца, ужо 16 саюзных дакументаў, але мы іх і ў вочы не бачылі. Ад Лукашэнкі мы раптам даведваемся, што ён цалкам згодны з адзінай валютай – расійскім рублём з адзіным эмісійным цэнтрам у Маскве. Гэта ўжо гаворыць за тое, што ніякай фінансавай, а значыць, і эканамічнай незалежнасці няма. Ужо ёсць «саюзны бюджэт», рыхтуюцца выбары ў «саюзны парламент» – гэта аднасэнсоўныя крокі па інкарпарацыі Беларусі ў Расію. Таму мы вельмі занепакоеныя, што гэта можа сапраўды адбыцца. Вось таму мы хочам паказаць усяму свету, што значная частка беларускага народа хоча жыць незалежна.

***– Дзеля гэтага аргкамітэт актывізаў сваю дзейнасць сярод замежнага дыпламатычнага корпуса, акрэдытаванага ў Мінску?***

– Мы ўжо сустракаліся з дыпламатамі буйных краінаў, і перш за ўсё з дыпламатамі краінаў-суседзяў. Мы паспрабавалі давесці да іх інфармацыю пра Усебеларускі з'езд з першых рук. Бо нехта пастаянна запускае – я не ведаю, хто гэта робіць – разнастайныя плёткі, што мы нібыта ставім перад сабой звышпалітычныя мэты. Амерыканцы, напрыклад, думалі, што гэта Лукашэнка праводзіць Усебеларускі з'езд. Мы ж расказалі, што галоўная наша мэта – выпрацаваць і прыняць з дэлегатамі, якія прадстаўляюць ці не ўсе беларускія рэгіёны, Акт Незалежнасці. Па-другое, мы запрашалі дыпламатаў прыняць удзел у з'ездзе. Дарэчы, я спрабаваў сустрэцца і з паслом Расіі ў Мінску. Але расійскі пасол адмовіўся прыняць мяне, замежнага сябра Расійскай акадэміі навук. Відаць, нездарма мы хвалюемся, раз ён так адрэагаваў на нашую просьбу сустрэцца.

***– У канцы траўня – першай палове чэрвеня паміж арганізатарамі Кангрэса дэмакратычных сілаў і Усебеларускага з'езда назіраліся напружаныя адносіны з-за даты правядзення абодвух форумаў. Была небяспека, што і кангрэс, і з'езд – незалежніцкія форумы, пройдуць амаль адначасова. У чым заключаліся асноўныя супярэчнасці?***

– Я б хацеў сказаць, што ёсць пэўнае перабольшванне гэтых супярэчнасцяў. Галоўнай мэтай кангрэса была выпрацоўка пазіцыі дэмакратычных сілаў адносна парламенцкіх выбараў. У нас – іншая мэта. Хаця без складанасцяў не абышлося – пэўныя плыні ў аргкамітэце хацелі, напрыклад, каб наш форум быў больш палітызаваны. Але сустаршыні адверглі падобныя прапановы. Ініцыятарамі кангрэса выступалі палітычныя партыі, а ідэя Усебеларускага з'езда ідзе знізу, гэта грамадская ініцыятыва.

Галоўная супярэчнасць датычылася тэрміну правядзення. І мы хацелі крыху раней правесці з'езд, і яны – кангрэс. Але, як бачыце, перапынак паміж форумамі складае амаль месяц. Некаторыя партыі хацелі перанесці з'езд ледзь не на канец года, калі павінны прайсці выбары ў палату прадстаўнікоў. Мы палічылі гэта няправільным: у канцы года адбудуцца выбары, могуць стварыць так званы «саюзны парламент». І, як бачыце, нагода ў нас добрая – 10-я гадавіна незалежнасці Беларусі. Самы момант сказаць, што мы – за незалежнасць, што яе трэба мацаваць.

***– Радзім Гаўрылавіч! Адзіная, бадай, афіцыйная рэакцыяй на Усебеларускі з'езд сталася нядаўняя заява міністэрства юстыцыі. Беларуская Феміда заявіла, што любыя рашэнні з'езда «не будуць мець ніякай юрыдычнай сілы і не пацягнуць прававых наступстваў». А ўсё таму, што «для рашэння важнейшых пытанняў дзяржаўнага і грамадскага жыцця могуць праводзіцца рэспубліканскія і мясцовыя рэферэндумы, парадак правядзення якіх вызначаны Канстытуцыяй і Выбарчым кодэксам Беларусі».***

– Гэта дзіўна: дакумента яшчэ няма, а мінюст заяўляе, што ён ужо неюрыдычны. Я нагогул дзіўлюся – чаго яны так спужаліся? Яны супраць незалежнасці, калі заяўляюць, што Акт Незалежнасці будзе неюрыдычны? Мне незразумела і крыху сорамна за нашае міністэрства юстыцыі. Больш за тое, Акт Незалежнасці не носіць характару абавязковага дакумента. Мы проста хочам заявіць, што мы – за незалежнасць.

***– Дарыце, Радзім Гаўрылавіч, але ўсё ж у заяве мінюста ёсць пытанне: якім чынам будуць рэалізоўвацца прынятыя з'ездам дакументы?***

– Мы, безумоўна, не прымусім улады выконваць гэты Акт. Але мы прымусім іх задумацца. Мы хочам давесці да нашых суседзяў, і давесці да ўласнага народа (таму што народ, забіты ўрадавай прапагандай, думае, што сапраўды 80% беларусаў хочуць у Расію), што гэта не так. Мы хочам жыць дружалюбна з Расіяй, але незалежна.

***– Пасля дазволу Мінгарвыканкама на правядзенне з'езда ў Палацы культуры «Сукно» заява мінюста насцярожвае. Вы не баіцеся, што ў апошні момант памяшканне для Усебеларускага з'езда не дадуць?***

– Такое можа быць. Я ўжо сутыкнуўся аднойчы з такой сітуацыяй, калі праводзіўся другі З'езд беларусаў свету. Але гэта будзе сорам для ўлады, бо яна адкрыта прызнаецца і свайму народу, і на ўвесь свет, што хоча здаць незалежнасць рэспублікі і байца тых, хто выступае супраць гэтага. ■

# Черный юмор белорусской экологии

Наталья РАДИНА

**По данным Всемирной организации здравоохранения, 70% заболеваний населения Беларуси вызваны неблагополучной экологической обстановкой в стране.**

**Корреспондент НАШАЙ СВАБОДЫ беседует с сопредседателем партии «БЭЗ» (Белорусская экологическая партия зелёных) М.Фридляндом.**

***— Михаил Евсеевич, сегодня стоимость квартир в Минске точно соответствует карте загрязненности города по районам. Шабаны, например, экологически самый грязный район столицы, и там самые дешевые квартиры. Но почему правительство расселяет своих граждан в прямой близости от промышленных зон?***

— Как были построены Шабаны? Тогдашний зампред горисполкома, несмотря на возражения института «Минскпроект», сказал: «Будут и все! Потому что людям будет близко ходить на работу». Мы почему-то исходим из того, что заводы важнее здоровья, и поэтому у нас в санитарно-защитных зонах живет порядка 100 тысяч человек. По закону там жилья быть не может.

И вообще, неужели Минск – столица европейского государства? Разве можно представить, чтобы в Париже вам сказали, что главная достопримечательность столицы Франции – заводы «Рено»? А в Минске чем хвастают? Тракторным заводом! Каждый год в Минске создается план социально-экономического развития города, главное в нем – это развитие промышленности, а такие вопросы, как строительство жилых домов в экологически чистых зонах, остаются на заднем плане. Ответственным чиновникам нет дела до того, что человек должен дышать чистым воздухом, пить чистую воду, есть не загрязненные продукты...

***— Насколько мне известно, чистая вода – сегодня повсеместная проблема. Насколько остра она сегодня в экологически загрязненных районах города?***

—Это не самая большая проблема Минска, но она неприятная. Две трети горожан Минска пьют воду с подземных водозаборов. Эта вода сравнительно чистая, но она с каждым годом ухудшается, и через 2-3 года нам придется чистить даже артезианскую воду. Три района столицы (Фрунзенский, Московский и Октябрьский) пользуются водой с поверхностных водозаборов, то есть из рек, и эта вода проходит довольно хорошую очистку. Но для того, чтобы удешевить строительство, воду в квартиры пропускают не по оцинкованным трубам, как это предусматривают нормы, а по обычным. Они быстро ржавеют, и вода, пройдя после очистных сооружений по таким трубам 10-15 км, приходит в квартиры загрязненной. Чтобы людей не травить, в нее добавляют хлорку в количестве, несколько раз превышающем норму. В результате, если сравнивать заболеваемость населения по районам Минска, то во Фрунзенском районе, где вода хуже, чем где бы то ни было, заболеваемость гепатитом на порядок выше, чем в других районах. Некоторые ученые связывают это именно с качеством воды.

***—А насколько соответствуют действительности сообщения о затрате больших средств на очистные сооружения?***

—У нас в этом плане наблюдается тенденция упрощения проблем. В Европе давно поняли, что лучше использовать технологии, при которых уменьшаются выбросы отходов, чем тратить деньги на очистные сооружения. У нас наоборот: никто не меняет технологии, а деньги бросают на очистку воды. Ежесуточно в стоки попадает 800 тысяч кубометров воды, канализационная сеть расчитана только на 630 тысяч кубометров, поэтому вода не успевает очищаться биологически, а очищается лишь механически. В результате, Свислочь на протяженности 100 км от черты города – самая грязная река в Европе.

***—Михаил Евсеевич, поселок Сосны, известный как пункт захоронения радиоактивных отходов, вошел в черту города Минска. Действительно ли это радиоактивное «кладбище» безопасно для населения столицы, как нас в этом уверяют власти?***

—Когда говорят, что этот радиоактивный «могильник» безопасен и то, что туда свозят радиоактивные отходы со всей Белоруси, — нормальное явление, я вспоминаю, как за год до Чернобыльской катастрофы президент АН СССР, академик Александров сказал, что реакторы чернобыльского типа настолько безопасны, что их можно ставить на Красной площади. В Соснах хранятся не только низкоактивные отходы с различных предприятий, но и невывезенные выбросы закрытого реактора Института ядерной энергетики. И при этом разработан проект расширения пункта захоронения радиоактивных отходов, а МАГАТЭ и наша НАН дали свои одобрительные заключения. Проект пока приостановлен, так как выяснилось, что пункт захоронения радиоактивных отходов попадает в охранную зону водозабора Сосен. Но ведь у нас нет даже концепции безопасного захоронения радиоактивных отходов. В чернобыльской зоне, к примеру, строится полигон по захоронению промышленных отходов, и мне кажется, что стоит туда же свозить и радиоактивные отходы, поскольку там все равно люди не живут и жить вряд ли будут. Если же мы пойдем на расширение «могильника» в Соснах, то сразу прекратим развитие этого перспективного для строительства жилья места. Это бомба в доме, а нам доказывают, что она безопасная...

***—Ну... Кому будет дело до Шабанов или Сосен, если у нас около 2 млн. человек спокойно живут в загрязненной зоне...***

— Как-то наша экологическая партия возила шведов в «зону». Во-первых, мы свободно проехали в зону отселения, и нас никто не остановил. Во-вторых, при том, что дозиметр показывал 152 рентгена (при норме до 20), люди рубили лес и выращивали овощи на продажу! Шведы не верили глазам: «Кто же это будет есть?» Мы будем есть! Кто у нас сегодня проверяет продукты на радиоактивность? Никто. Мы съели все загрязненные радиацией продукты до последнего килограмма и смеялись над западными странами, когда они уничтожали радиоактивные продукты. В результате у любого из нас есть знакомый, который умер в 40 лет. Еще 20 лет назад это было ЧП, сейчас это никого не удивляет. Както один высокопоставленный чиновник на мои слова о том, что средний белорус не доживает до 60-65 лет и из-за этого раз в жизни получает пенсию, пошутил: «Ну и хорошо, не надо платить пенсию!» Черный юмор... ■



Фота Ул. ШЛАПАКА

Свіслач у Мінска і за ім — самая брудная рака ў Еўропе. А мы па ёй плаваем

# Без каментарыяў – прыгожа, з каментарам – бяда

Рыгор БУЯН

**На сустрэчы з журналістамі міністр статыстыкі РБ Уладзімір Зіноўскі хваліўся «поспехамі» работы народнай гаспадаркі ў першым паўгоддзі. Каментарыяў міністр не даваў – сыпаў, як кажуць, сухімі лічбамі.**

У.Зіноўскі сцвярджае, што за першыя шэсць месяцаў гэтага года валавы ўнутраны прадукт вырас на 4% у параўнанні з адпаведным перыядам года мінулага пры прагнозах 2-3%. Міністр адзначыў, што выканаўчыя асноўныя паказчыкі па росце прамысловай прадукцыі,


Фота IREX/ProMedia

абʼёме інвестыцыяў у асноўны капітал, вытворчасці спажывецкіх тавараў, рэальных грашовых даходах насельніцтва... Выключэннем зʼяўляецца толькі сельская гаспадарка.

Ці апраўданы такі аптымізм?

## Прамысловасць стаіць на каленях

У.Зіноўскі гаворыць, што ў першым паўгоддзі рост прамысловай прадукцыі склаў 5,6 працэнта пры прагнозе ў 2-3%. Лічбы сцвярджаюць, што выпуск прадукцыі павялічылі 1.506 прадпрыемстваў, ці 70% агульнай колькасці. Рост запасаў гатовай прадукцыі ў параўнанні з 1 студзеня 2000 года адзначаецца амаль ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Па стане на 1 ліпеня, у прамысловасці будаўнічых матэрыялаў запасы гатовай прадукцыі склалі больш за 60%, у лясной, дрэваапрацоўчай, цэлюлозна-папяровай і лёгкай прамысловасці – больш за 80% сярэднямесячнага абʼёму вытворчасці, у машынабудаванні і металаапрацоўцы – перавысілі месячныя абʼёмы вытворчасці. Між тым, у прамысловасці назіраецца надзвычайная напружанасць у фінансавым становішчы. За пяць месяцаў стратнымі былі 660 прадпрыемстваў, ці 28% агульнай колькасці, гэта перш за ўсё прадпрыемствы паліўнай галіны, будаўнічых матэрыялаў, хімічнай, нафтахімічнай і лёгкай прамысловасці. Рэнтабельнасць прамысловай прадукцыі ў студзені-траўні склала 13,7% супраць 18,5% за аналагічны перыяд мінулага года.

## Што есці будзем?

Сельская гаспадарка, калі верыць У.Зіноўскаму, бадай, адзіная галіна народнай гаспадаркі, дзе назіраецца поўны правал па ўсіх накірунках. У першым паўгоддзі не ўдалося пераадолець адставанне ў сельскай гаспадарцы, допушчанае з пачатку года ў выніку складанай зімоўкі жывёлы; горш вядзецца нарыхтоўка кармоў. Практычна завершаная нарыхтоўка травы першага ўкосу: на 17 ліпеня нарыхтавана травяністых кармоў 1,3 мільёна тон, што складае 69% да аналагічнага перыяду мінулага года. У разліку на ўмоўную галаву жывёлы нарыхтавана травяністых кармоў 4,3 цэнтнера кармавых адзінак – гэта на 1,6 цэнтнера менш, чым летась за той жа час.

Не дасягнута станоўчых вынікаў у жывёлагадоўлі. Рэалізацыя жывёлы і птушкі паменшылася на 10%, вытворчасць малака скарацілася на 13%. Знізілася прадуктыўнасць жывёлы, паменшыліся пастаўкі малака і мяса ў дзяржаўныя рэсурсы.

## Традыцыйная арыентацыя

За першае паўгоддзе знешнегандлёвы абарот склаў 6,3 мільярда долараў і ўзрос на 31%, у тым ліку з дзяржавамі СНД – на 39%, з краінамі далёкага замежжа – на 18%. Экспарт тавараў склаў 2,9 мільярда долараў, імпарт – 3,4. Сальда знешняга гандлю склалася адмоўнае ў памеры 524 мільёны долараў. Беларусь прытрымліваецца традыцыйнай арыентацыі ў выбары асноўных знешнегандлёвых партнёраў. Вядома, гэта – Расія: на яе долю прыпадае 57% агульнага абʼёму і 88% гандлёвага абароту з краінамі СНД. Актывізавалася гандлёвыя адносіны з Украінай, якая становіцца другім па значнасці гандлёвым партнёрам – 6% агульнага тавараабароту і 9% тавараабароту з СНД. 3-е месца і 1-е месца сярод дзяржаваў па-за межамі СНД зʼяўляецца Германія: 5,5% агульнага і 15,5% па-за СНД.

Агульны абʼём экспарту беларускіх тавараў узрос на 25% пры прагнозным заданні 2-3%. У тым ліку з СНД – на 26%. У дзяржавы па-за СНД экспартавана на 24% больш. Экспарт павялічыўся ў Нідэрланды, Літву, Польшчу, Латвію, Вялікабрытанію, Кітай...

## Заробкаў не хапае на прадукты

У чэрвені сярэдняя зарплата па народнай гаспадарцы склала 57,6 тысячы рублёў. Між тым запазычанасць па заробках ужо дасягнула астранамічнай лічбы – 22,7 мільярда рублёў, прычым тры чвэрці гэтай сумы завінавацілася сельская гаспадарка. ■

ДУМКА НАРОДА

# А.Лукашэнку паставілі на трэцяе месца

Антырынкавая палітыка, якую настойліва ажыццяўляюць нашыя дзяржаўныя органы, узначаленыя А.Лукашэнкам, дае адпаведны плён – маса бедных людзей узрастае. Тэст на беднасць – вельмі просты: гэта магчымасць задаволіць свае патрэбы за суму заработнай платы. За апошні год гэтая магчымасць змяншылася. Так, 63% удзельнікаў нацыянальнага апытання, якое праводзілася месяц назад Цэнтрам сацыяльных і экалагічных даследаванняў разам з НІСЭПД, адзначылі агульнае пагаршэнне стану беларускай эканомікі. Субʼектыўныя ацэнкі эканамічнага становішча з боку галоўнай ячэйкі грамадства (сямʼі, асобы) ляжаць у тых жа межах. На пытанне пра пагаршэнне асабістага матэрыяльнага становішча адказы рэспандэнтаў паказалі наступную карціну:

Варта дадаць, што тры гады таму СМІ вінавацілі 2.9% рэспандэнтаў, Захад – 3.5%, а мафію – 14.2%. Так што беларускае жыхарства пакрысе асэнсоўвае, што спробы ўладаў ківаць на сродкі масавай інфармацыі беспадстаўныя, падкопы Захаду супраць Беларусі – ідэалагічны міф, створаны для падману даверлівых, а мафія ў нашай рэспубліцы, беднай на выкапні і багатай на прадпрыемствы, не мае вялікай прасторы для дзейнасці. Аднак значная колькасць людзей пакуль што не здолела выйсці з-пад уплыву прапаганды і не разумее, што ўрад і мясцовыя ўлады цалкам падкантрольныя прэзідэнту і не вольныя прымаць самастойнага рашэння. Вертыкаль выканаўчай улады прызначаецца прэзідэнтам, выконвае яго-




На працягу года колькасць людзей, у якіх жыццё на іхнае адчуванне пагоршылася, узрасла на 1,3%, адпаведна паменшылася і колькасць тых, хто ацэньвае сваё матэрыяльнае існаванне як стабільнае (год таму такіх было 34.4%).

Зразумела, што людзі шукаюць адказчыка за сваё цяжкае і бесперспектыўнае жыццё. На пытанне «Хто вінаваты ў пагаршэнні эканамічнай сітуацыі?» адказы ўдзельнікаў апытання размеркаваліся гэтакім чынам:

ны курс, і на ім ляжыць віна за бедствы нашай эканомікі. Разам выканаўчую уладу (прэзідэнт, урад, мясцовае начальства) вінавацяць 56.6% людзей. Пэўная колькасць рэспандэнтаў не жадае прызнавацца ў сваёй памылцы, зробленай 6 гадоў таму, але ў кабінцы для тайнага галасавання яны могуць павесці сябе насуперак заявам, зробленым услых. ■

Па матэрыялах НІСЭПД




# Немцы расплатятся с жертвами нацизма

## Евреи и остарбайтеры получат по несколько тысяч марок

Николай ПОРФИРЬЕВ

**Германия согласилась выдать новые компенсации жертвам нацизма, причем, по уверениям официальных лиц, страна делает это в последний раз. Речь идет о выплатах лицам, угнанным фашистами для несения рабского или подневольного труда в период Второй мировой войны. Достигнутое соглашение о компенсациях является значительным прогрессом в деле восстановления справедливости, поскольку ранее деньги выплачивались главным образом узникам концлагерей или жертвам еврейской национальности.**

Собственно, еврейские организации были инициаторами требований компенсаций и на этот раз. По их инициативе в процесс включились правительства Соединенных Штатов и Израиля, которые оказали главное давление на Берлин. Не случайно соглашение о выплатах, заключенное 17 июля в немецкой столице, подписывалось под германским и американским флагами, а среди основных его сторон были представители Вашингтона и Иерусалима. Граждане государств Центральной и Восточной Европы, которые составляли едва ли не главную часть угнанных в рабство, также получат свои деньги.

В итоге, согласно подписанному документу, Германия образует специальный фонд, из которого бывшие остарбайтеры и прочие лица, подвергавшиеся эксплуатации, получат в общей сложности около 10 миллиардов марок. Половину суммы предоставит правительство Федеративной Республики, другую предполагается собрать в крупных компаниях, являющихся правопреемниками индустриальных концернов, которые использовали рабский труд при Гитлере. До 850 миллионов марок должны получить россияне. Планируется, что организации, уполномоченные правительствами разных стран, будут распределять компенсации среди жертв, оставшихся в живых, а также среди их прямых наследников, если сами пострадавшие умерли после февраля 1999 года — времени, когда начались переговоры по берлинскому соглашению. Суммы выплат будут различаться в зависимости от тяжести труда и его условий: работавшие в лагерях получат по 15.000 марок, на предприятиях и фермах — по 5.000.

Несмотря на общий позитивный тон, который сопровождал подписание соглашения, система компенсаций вызывает немалую критику. Прежде всего, это касается несправедливости по отношению к лицам, умершим до начала переговоров, и их наследникам. Глава американской делегации Стюарт Айзенстат заявил: «Одно из главных разочарований — в том, что соглашение опоздало». Наличие проблемы признал и министр иностранных дел Германии Йошка Фишер, сказавший на церемонии подписания: «К сожалению, для многих жертв уже слишком поздно». К 1944 году в Германии находилось боле 10 миллионов военнопленных и лиц, угнанных на принудительные работы. Сейчас в живых осталось 900 тысяч.

Другой повод для критики — непропорциональное распределение общих сумм компенсаций, выплаченных за послевоенное время, между Западом, Центральной и Восточной Европой. ФРГ — как до, так и после объединения Германии — предоставила более 104 миллиардов марок жертвам нацизма в различных странах. Государства социалистического лагеря, по идее, должны были довольствоваться репарациями ГДР, однако ни для кого не секрет, что эти средства пополнили главным образом партийно-правительственные кассы. В результате, по подсчетам восточноевропейских политиков, жители посттоталитарного мира получили только 1% компенсационных денег.

В объединенной Германии, где «покаянные» мотивы, свойственные пятидесятымвосьмидесятым годам, сменяются тоской по национальному величию и стремлением не акцентировать внимание на истории середины XX века, к которой большинство нынешних немцев не имеет личного отношения. Молодежь и люди среднего возраста в Германии устали от напоминаний о Второй мировой. «Жизненный проект» нового немецкого истеблишмента — это занятие ведущей роли в объединенной Европе, где многие немцы видят себя покровителями центрально- и восточноевропейских стран. ■



После достижения соглашения о компенсации. В центре — канцлер Германии Г.Шредер

КАМПЕНСАЦЫЯ

# Немцы выбачаюцца за вайну

Кірэй МАНУЙЛАЎ

Нямеччына працягвае выплаваць маральную і гістарычную адказнасць перад народамі, што пацярпелі ў час Другой сусветнай вайны. Пра гэта на цырымоніі падпісання з Чэхіяй, Ізраілем, Польшчай, Расіяй, Украінай і Беларуссю пагаднення «Памяць, адказнасць, будучыня» заявіў нямецкі міністр замежных справаў Ёшка Фішэр.

Пагадненне прадугледжвае кампенсацыйныя выплаты колішнім вязьням канцлагераў, ваеннапалонным і остарбайтэрам з гэтых краінаў, што яшчэ засталіся ў жывых. Дзеля гэтага нямецкім урадам і прамысловымі прадпрыемствамі на роўных створаны аднайменны фонд памерам у 10 млрд. марак, які будзе размеркаваны сярод 1,5 млн. чалавек. У Беларусі кампенсацыю на агульную суму 694 млн. марак атрымаюць 170 тыс. нашых суайчыннікаў. Выплаты распачнуцца ўжо ў гэтым годзе.

Дарэчы, аналагічны кампенсацыйны фонд фармуе таксама Аўстрыя. З яго, як мяркуецца, на тых беларусаў, якія былі вывезеныя падчас вайны на прымусовыя работы ў гэтую краіну, прыпадзе каля 50 млн. долараў. ■

# Міністр культуры не любіць «Вольную сцэну»

## Хоць сам на ёй ніколі не быў

Кірэй МАНУЙЛАЎ

**У тэатральных колах краіны – скандал за скандалам. Трохі сцішыўшы з дапамогай абяцанкаў нездаволенасць акцёраў ТЮГа мізэрнымі заробкамі, міністэрства культуры справакавала канфліктную сітуацыю ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, вядомым менчукам як «Вольная сцэна». Паводле рашэння міністра Аляксандра Сасноўскага, з 1 жніўня тэатр павінен застацца без мастацкага кіраўніка Валерыя Мазынскага. Тое, што думае на гэты конт творчы калектыў, проста праігнаравалі. Абураныя акцёры, ацэньваючы гэтае звальненне як замах наогул на ўсю «Вольную сцэну», маюць намеры галоўнага рэжысёра адстаяць.**




Мастацкі кіраўнік Валерый Мазынскі з артыстамі «Вольнай сцэны»

Справа ў тым, што ў Мазынскага якраз 1 жніўня сканчаецца кантракт. Як і належыць па законе, за месяц да гэтае даты ён напісаў заяву на імя дырэктара тэатра Юрыя Куліка, каб працягнуць працоўную дамову на новы тэрмін. Той «за», але працэдура падпісання кантракта на пасаду мастацкага кіраўніка тэатра прадугледжвае ўхвалу ў мінкульце. Кулік зрабіў туды адмысловы запыт з прадстаўленнем кандыдатуры Мазынскага. Начальнік аддзела тэатраў міністэрства культуры Вадзім Дапкюнас перадаў міністру Сасноўскаму ў сваю чаргу такую ж рэкамендацыю. Тым не менш на мінулым тыдні ў «Вольную сцэну» за подпісам міністра культуры прыйшоў ліст з адказам, што «міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь разгледзела ваш запыт і лічыць немэтазгодным працяг кантракта з мастацкім кіраўніком Мазынскім В.Я.», прапануючы яму пасаду чарговага рэжысёра ў Тэатры беларускай драматургіі ці ў іншых сталічных тэатрах. «Немэтазгодна» і ўсё – без аніякіх тлумачэнняў.

Першым адрэагаваў старшыня Саюза тэатральных дзеячаў драматург Аляксей Дудараў, які ў лісце да А.Сасноўскага піша, што калі Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі застанецца без мастацкага кіраўніка, «гэта для яго пагібель. Замяніць загадчыка музея, бібліятэкі, нават дырэктара тэатра і то бывае не заўсёды проста. Замяніць жа мастацкага кіраўніка творчага калектыву без падрыхтоўкі, спантанна, на адных эмоцыях – гэта нанесці яму вялікую, а можа, і непапраўную шкоду. Як кіраўніку тэатральнага саюза мне вядома сітуацыя знутры, і я магу з усёй адказнасцю заявіць: ніводзін рэжысёр, а іх у нас зусім не багата, у сітуацыі, якая складваецца, на пасаду Мазынскага В.Я. не пойдзе з-за этычных меркаванняў. Прызначыць жа на яе паслухмянага клерка таксама немагчыма, трэба мець талент ці хаця б здольнасці».

А ў мінулую пятніцу ў тэатры адбыўся агульны сход творчага калектыву, на які патлумачыць матывы адстаўкі мастацкага кіраўніка тэатра запрасілі самога міністра культуры. Але той на сход не з'явіўся, упаўнаважыўшы замест сябе галоўнага рэдактара міністэрскага аддзела тэатраў ВацлаваВаладзько.

Прыкладны змест выкладзенай ім пазіцыі міністэрства ў тым, што «асабісты ўклад Мазынскага Валерыя Яўгенавіча на пасадзе мастацкага кіраўніка ў тэатры ўсё слабейшы і слабейшы». Па сутнасці, яму робяць папрок у прафнепрыдатнасці. У прыватнасці, даводзіцца, што Мазынскі не выконваў норму пастановак, прадугледжаную для мастацкага кіраўніка, і што з 1996 года не даў аніводнага спектакля.

Між тым за гэты перыяд як рэжысёр Мазынскі аднавіў «Барбару Радзівіл» паводле п'есы Раісы Баравіковай, паставіў «Узлёт Артура Уі, які можна было спыніць» па Брэхце і зусім нядаўна — прэм'ера адбылася 29 чэрвеня – «Прынца Мамабука» паводле Аляксея Дударава. Але ў мінкульце гэтыя работы ўлічваць не хочуць, таму што, маўляў, «Узлёт Артура Уі» – спектакль па п'есе небеларускага аўтара, «Барбара Радзівіл» – не новая пастаноўка, а менавіта толькі праз нейкі час адноўленая, а наконт свежага «Прынца Мамабука» той жа галоўны спецыяліст аддзела тэатраў Валадзько сказаў, што гэта спектакль вельмі нізкага мастацкага ўзроўню, і наогул выказаў з гэтай нагоды сумнеў у прафесійнасці «Вольнай сцэны», якая «дазваляе сабе такія рэчы».

Пры гэтым чамусьці не ўважаецца, што за апошнія тры гады ў тэатры ўсяго з'явілася 9 прэм'ерных спектакляў. Да таго ў самім міністэрстве выдатна ведаюць сітуацыю з фінансаваннем пастановак. Так, летась грошы для «Вольнай сцэны» знайшліся толькі на адзін спектакль «Стомлены д'ябал».

Агульная думка ў тэатральных колах, што Мазынскага здымаюць «па палітыцы». Да таго, кажуць, міністр культуры вызнае да яго і ў цэлым да Тэатра беларускай драматургіі асабістую непрыязнасць. Хоць ні разу не быў тут і не паглядзеў аніводнага спектакля. Менавіта Сасноўскі, які заступіў на гэтую пасаду ў канцы 1995 года, забараніў нестатутную назву тэатра – «Вольная сцэна». Многія пераказваюць такое ягонае выслоўе: «А што ў нас у рэспубліцы астатнія тэатры ўсе паднявольныя?».

Зазналі рэпрэсіяў спектаклі «Узлёт Артура Уі, які можна было спыніць» і «Прынц Мамабук», у якіх чыноўнікі ўтледзелі антыдзяржаўныя і антылукашэнкаўскія матывы.

Усімі без выключэння творчымі супрацоўнікамі тэатра падпісаны зварот да міністра культуры Аляксандра Сасноўскага, што «трэба шчыра і з усёй дзяржаўнай адказнасцю адказаць на простае пытанне: хто сёння можа замяніць Мазынскага В.Я. на гэтай пасадзе? Вартай кандыдатуры пры беднасці нашай рэжысуры, на вялікі жаль, мы не бачым».

Што да малой колькасці спектакляў, пастаўленых асабіста Мазынскім, то артысты лічаць, што «галоўная і асноўная задача мастацкага кіраўніка – вызначаць палітыку тэатра, прыцягваць для пастановак лепшых рэжысёраў, маладых драматургаў, а не самавызначацца», і заяўляюць, што «тэатру пагражае заняпад, і мы будзем яго ратаваць усімі законнымі сродкамі». А ў выпадку, калі Мазынскага ўсё ж не пакінуць на пасадзе, у знак салідарнасці ўслед за сваім мастацкім кіраўніком і настаўнікам збіраецца сысці з тэатра ўся трупа.

Артыст Мікола Рабычын:

— Ва ўсе часы пры любым палацы існавалі блазны. Я лічу, што наша прафесія – таксама блазнюкі. Мы — блазнюкі. Ва ўсе часы блазны былі некранатыя, і не чaплялі іх каралі. Усім адсякалі насы, вушы – не чапалі аднаго блазна. Гэта ўсё па палітычных матывах. Нічога з таго, што было нагаворана пра прафесійныя якасці, не датычыць Мазынскага. Таму я, як блазнюк, як і Мазынскі, заяўляю, што ніводнага дня не застануся з новым мастацкім кіраўніком.

Рэжысёр Мікола Дзінаў:

— Калі кагосьці здымаць, то здымаць трэба там (у міністэрстве культуры. – **К.М.**).

Артыстка Людміла Сідаркевіч:

— Забраць ад нас Мазынскага – гэта рэзаць па-жывому. ■

### ДАВЕДКА нашай свабоды

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі «Вольная сцэна» заснаваны пастановай Савета Міністраў у 1990 годзе. Ад самага першага дня яго існавання да гэтай пары мастацкім кіраўніком быў (а да 1998 года адначасова і дырэктарам) і ёсць заслужаны дзеяч мастацтваў і лаўрэат дзвюх Дзяржаўных прэміяў Валерый Мазынскі, працаваўшы да таго галоўным рэжысёрам Тэатра імя Якуба Коласа. За гэты час на беларускамоўнай «Вольнай сцэне» паказана 25 спектакляў. Тэатр браў удзел у шматлікіх міжнародных тэатральных фестывалях і беларускіх фестывалях нацыянальнай драматургіі, заваёўваў дыпломы фестываляў «Прыбалтыйская тэатральная вясна» ў Гародні (1993), «Маладзечанская сакавіца» (1995, 1998). Тэатр атрымаў вышэйшую адзнаку брытанскіх крытыкаў «5 зорак» — за спектакль «Рычард III» на міжнародным фестывалі мастацтваў у шатландскім Эдынбургу, Гран-пры за лепшы спектакль (фантасмагорыя-псіхааналіз «Стомлены д'ябал») на берасцейскай «Белай вежы» (1999).

Літаратура НАШАЙ СВАБОДЫ

# Тэатр аднаго паэта

Леанід ГАЛУБОВІЧ

**Гэты прыгожы малады чалавек на здымку – дваццацісямігадовы паэт Анатоль Сыс. Цяпер яму – сорак і ён зусім іншы...**

Пра яго столькі пісалі і гаварылі, што дадаваць яшчэ тры грошыкі не мае сэнсу. Гэтак падумаўшы ды пераатросшы сваё «дасье» на яго, я вырашыў «даць» слова самому Паэту. Вядома, апроч гэтай кароценькай «прэлюдыі» ды заключнага акорда.

*У гэтай краіне не маю*
*я дому,*
*вось воблака – сяду*
*і ў свет палячу*
*над гэтай гаморай,*
*над гэтым садомам,*
*ні грошай, ні славы –*
*я волі хачу,*
*бо ў гэтай краіне*
*не маю я волі...*

Анатоль Сыс: «Нарадзіўся я ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна. Мая хата стаіць на гарадзішчы Зарубеніцкай і Мілаградскай культураў. Гэта III–IV ст. да н.э. Маці і бацька ў 50-ых гадах удзельнічалі ў раскопках. Часта жартую, што сталіца Беларусі – Гарошкаў, бо першага глінянага каня знайшлі на маім гародзе, як бульбу капалі. Ён зараз – ва ўсіх энцыклапедыях. Вось адкуль узялася Пагоня! Скончыў аддзяленне рускай і беларускай мовы Гомельскага універсітэта. Служыў у войску. Пасля – карэспандэнт сельгасаддзела веткаўскай раённай газеты. Потым бадзянне ў пошуках працы...




Анатоль Сыс (злева). Здымак 1990 года

Ніводнае паседжанне «Талакі» і «Тутэйшых» без мяне не абыходзілася. Быў трыбунам. А паэт павінен быць усякім. Паэзія – гэта інтуіцыя, калі хочаш, імправізацыя па матывах душы. У гэты момант мяне лепш не чапаць. Я сам, як шаравая маланка. Большую палову вершаў напісаў з павышанай тэмпературай. У 1977 годзе я трымаў іспыты ў тэатральны інстытут, дык бачыў сябе ў Купалаўскім тэатры. Шкада, што мяне тады не разгледзелі. Аднак у жыцці я цалкам рэалізаваў тое, што не ўдалося ў тэатры. Пасля вечарыны «Тутэйшых» у Янкі Брыля запыталі: «Ну, як?» На што Янка Антонавіч адказаў адным словам: «Тэатр!» Прынамсі, я шмат у чым – тэатр аднаго паэта. Так і жыву. Праўда, здараецца, што пераігрываю. Банальная гісторыя. Выйшлі два мае зборнікі («Агмень», 1988 г. і «Пан лес», 1989 г. – **Л.Г.**). Атрымаў ганарар. Усе хочуць са мной сустрэцца, паслухаць вершы, выпіць чарку. Грошы ёсць, з усімі гуляю. Патрапіў правінцыйны хлопчык у сталічную багему. Так і закруціўся. Паэты моцныя індывідуалісты, інтымісты (ад слова інтым). Гэта ўсё ўва мне сышлося. Мая жонка – паэзія. А «Беларусь» і «паэзія» для мяне сінонімы. Адкуль я ведаў, што «Віцязь» (Ю.Азаронак, рэжысёр д/ф «Ненависть. Дети лжи». – **Л.Г.**) у шакалавай шкуры ды яшчэ з камерай, ды яшчэ – з-за вугла здымае мяне. Вядома, крыўдна, што з-за мяне быў кінуты цень на БНФ. Хаця я ніколі не ўваходзіў ні ў якую партыю, у тым ліку і ў БНФ. БНФ, па вялікім рахунку, узяўся з «Талакі» і «Тутэйшых». Але гэта размова не на адно інтэрв'ю. Наогул, паэту няма чаго лезці ў вялікую палітыку. Мяне многія лічаць рэзкім, нястрыманым. Ды і сам я падтрымліваю такі імідж. Заўсёды дазваляю сабе ўсё і фізічна, і духоўна – бо жыву адзін раз – адсюль маё імкненне да незалежнасці і ў жыцці, і ў паэзіі. Я павінен пісаць вершы. Касіць сена і без мяне багата хто ўмее. Здараецца бываць у незнаёмых кампаніях, дзе не ведаюць мяне як паэта. Бачу: прыемныя людзі, тады кажу, а вы ведаеце, што я сын Янкі Купалы і брат Максіма Багдановіча? Сумна, бо пасля сябе не бачу нікога. Я прыйшоў пасля Караткевіча, пасля мяне – ніхто. З'явіцца такі творца, я яму ў тазіку ногі памыю і ваду вып'ю. Памятаю, што апошні надрукаваны мой верш называецца «Вечны жыд». Трэба здаць рукапісы дзвюх кнігаў. Адна павінна выйсці ў «Мастацкай літаратуры». Называецца «Лён». Другая – «Ягамосць» – у Беластоку. Выдам новыя кніжкі, супакоюся і трэба будзе зноў нешта прыдумаць. Гады, вы мяне чуеце? Я хачу кнігу! Зараз жа! Хутка! Я ж – паэт! Вялікі беларускі паэт!»

*І селі дружна, шчыра,*
*шчыльна,*
*як на касьбе ці на сяўбе,*
*паэт сказаў:*
*п'ем за Айчыну!*
*І кожны выпіў: за сябе...*

Напрыканцы – зусім свежая показка ад суседкі Анатоля Ціханавіча.

«Надоечы, цёплым чэрвеньскім вечарам высунуўся ён на балкон. Унізе, у цёмным кустоўі – толькі піск ды гырканне дваровай «шпаны» «Гэй! – крычыць ім Анатоль. – Давайце пагуляем: я да вас казаць буду, а вы мне адказваць!» «Жыве Беларусь!» – гарлае Ціханавіч з вышыні свайго паверха. «Жыве!!!» – хорам равуць знізу падлеткі. «Жыве Беларусь!» – паўтарае ён. «Жыве!!!» – рэхам адгукаецца яму ўжо ледзь не ўвесь квартал. Запальваецца святло ў кватэрах, адчыняюцца вокны, бразгаюць балконныя дзверы. Абурэнне людзей неверагоднае. І – раптам – з усяго гэтага вэрхалу прарэзваецца надтрэснуты старэчы голас: «Госпадзі, і хто ж ета пасрадзі ночы спакойна людзям вмерці не даёць?!»

Сыс?.. ■

КНІГАРНЯ

# Знішчаныя за любоў да Радзімы

Альбіна ТЫШКЕВІЧ

**А.Болатаў, Г.Рыдзеўскі. Ахвяруючы сябе Бацькаўшчыне. Мн., «Тэхналогія», 1999 (серыя «Нашы славутыя землякі»).**




Калі мне прыходзіцца бачыць на камуністычных ці праўрадавых мітынгах і дэманстрацыях людзей, якія з выклікам носяць плакаты з выявай Сталіна, шчыра прызнаюся, я думаю пра іх, што гэта хворыя на розум, якім неабходны псіхатэрапеўт. Немагчыма растлумачыць гэтакую непазбытную любоў «да правадыра ўсіх народаў» гістарычнай недасведчанасцю ці наогул непісьменнасцю. Немагчыма ўявіць, што носьбіты сталінскіх выяваў не глядзяць тэлевізар, не чытаюць газеты і кнігі. Яны неаднойчы чулі, колькі людзей было забіта на загад гэтага вырадка і яго памагатых у гады рэпрэсіяў, яны ведаюць, што праз сталінскія канцлагеры прайшлі мільёны, але не жадаюць гэта прыняць за бяду. Вар'яцтва – гэта найперш невідушчасць у адносінах да іншага чалавека, адсутнасць спачування, чуллівасці, павагі, жаданне навязаць сваю волю.

Кніга «Ахвяруючы сябе Бацькаўшчыне» дадае да балючай карціны масавага генацыду, перажытага Беларуссю ў 30–40-я гады, калі краіна панесла жудасныя страты лепшай часткі нацыі, яшчэ адзін з пашанай праследжаны лёс. Яна прысвечаная Аркадзю Смолічу, заслужанай у нашай гісторыі асобе, выдатнаму навукоўцу, справы і імя якога доўгія дзесяцігоддзі былі закрытыя ад ушанавання



Аркадзь Смоліч пад час ссылкі ў горадзе Ірэшым Омскай вобласці

паслядоўнікамі Сталіна і Берыі.

Таталітарны рэжым, створаны гэтымі чалавеканенавіснікамі, бязлітасна вынішчаючы людзей, вынайшаў цынічную замену слову «расстраляны» – асуджаны на «10 гадоў без права перапіскі», так казала пра забітага НКУС яго сваякам, каб тыя нават не ведалі пра смерць дарагога ім чалавека і жылі спадзеяй на сустрэчу, былі ціхмяныя, каб не нашкодзіць таму, хто асуджаны, маўчаць 10 гадоў пра тое, што ён ужо на тым свеце. Аркадзь Смоліч быў расстраляны ў 1938 годзе. Толькі праз два дзесяцігоддзі яго жонка атрымала паведамленне, што нібыта ён памёр ад сардэчнага прыступу ў лагеры ў 1943 годзе, і толькі на запытанне Васіля Быкава, праз паўстагоддзя пасля расстрэлу, стала вядомая праўда.

Аркадзю Смолічу савецкая ўлада зламала лёс у 1930 годзе, калі пачала вынішчэнне ідэі адраджэння Беларусі, беларускай мовы, культуры, навукі. Абвінавачаныя ў «нацдэмаўшчыне», сотні адукаваных людзей былі сасланыя з Беларусі ў Сібір ці на Поўнач, а потым у ссылцы арыштаваныя паноўна і большай часткай забітыя.

Аркадзю Смолічу не даравалі, што ён быў дэлегатам Першага Усебеларускага з'езда, што ўваходзіў у Раду БНР, што менавіта ён 24 сакавіка 1918 года а 8-й гадзіне вечара выступіў з дакладам на сесіі Рады БНР у Мінску і абгрунтаваў неабходнасць абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1919 годзе Смоліч стварае школьны падручнік «Геаграфія Беларусі». Аўтары прыводзяць меркаванне доктара геолага-мінералагічных навук, знанага краязнаўцы Э. Ляўкова пра гэты падручнік: «...Нямала таленавітых даследнікаў працавала ў гэтай галіне, былі дасягненні ў вывучэнні азёр і рэк, клімату, рэльефу, тапанімікі і эканомікі, але да таго ўзроўню і метадалогіі геаграфія пасля забароны кніг Смоліча не паднялася, ніхто не наважыўся адзін напісаць настолькі цікавы для чытачоў рознага ўзроўню падручнік».

Паверыўшы бальшавіцкім абяцанкам, Смоліч у 1922 годзе вяртаецца з-за мяжы ў Савецкую Беларусь. Тады ж прыехалі з эміграцыі В.Ластоўскі, Я.Лёсік, С.Некрашэвіч, А.Цвікевіч ды іншыя выдатныя беларускія дзеячы. Усіх іх неўзабаве чакаў аднолькавы лёс – ссылка, лагер, расстрэл. У Мінску Смоліч выкладаў у БДУ, абараніў дысертацыю, стаў прафесарам кафедры геаграфіі. У 1928 годзе ён разам з Усеваладам Ігнатоўскім распрацаваў статут Беларускай акадэміі навук. Яго навуковая кар'ера спынілася 27 чэрвеня, калі яго арыштавалі. Праз дзевяць месяцаў ОГПУ БССР асудзіла прафесара на ссылку ва Уральскую вобласць. Болей Аркадзь Смоліч на радзіму не вярнуўся. А ў 1937-м, таксама ў чэрвені, яго зноў арыштавалі, а праз год, 10 чэрвеня, «тройка» НКУС Омскай вобласці вынесла яму смяротны прысуд. Праз тыдзень расстрэльная каманда прысуд выканала. Дзе магіла А.Смоліча невядома.

Кніга падае цікавыя звесткі пра паходжанне, вучобу, сямейнае жыццё Аркадзя Смоліча, пра яго навуковую працу, знаёміць з лістамі з турмы, якія захавала жонка.

Людзі такой адоранасці і з такімі заслугамі перад народам назаўжды застаюцца ў яго памяці. Варта падзякаваць аўтарам і выдавецтву «Тэхналогія», якія пастараліся пазнаёміць чытача з постаццю вялікага чалавека. ■

# Игрок, которому долго везет

Константин КАПИТОНОВ

**На днях исполнилось 32 года со дня прихода к власти в Ираке Партии арабского социалистического возрождения (БААС). Ее нынешний лидер – глава государства Саддам Хусейн – занимает все высшие государственные посты – президент, верховный главнокомандующий (в звании маршала), генеральный секретарь регионального руководства БААС, председатель Высшего совета по борьбе с неграмотностью и т.д. и т.п. Он пережил долгую и изнурительную войну с Ираном. Позорное поражение в войне в Персидском заливе. Десятки заговоров и покушений, значительную часть которых, как выяснилось впоследствии, организовал либо он сам, либо преданные ему люди.**

Что же помогает иракскому диктатору (будучи суннитом в стране, большинство населения которой – шииты) двадцать с лишним лет выживать и удерживаться у власти? Думаю, что ответ следует искать как в нем самом, так и в его восхождении на вершину пирамиды власти.

Саддам Хусейн – его настоящая фамилия Аль-Тикрити – родился 27 апреля 1937 года в небольшом городке Тикрит, расположенном в 160 километрах севернее Багдада. Его отец – простой крестьянин, всю жизнь обрабатывавший землю, – умер, когда Саддаму было девять месяцев. По местному обычаю, его дядя Аль-Хадж Ибрагим женился на вдове брата и взял сироту в свою семью, в которой было много детей и мало достатка.

Впрочем, об этих деталях в Ираке давно не вспоминают. Официальные биографы Саддама сообщают, что клан Аль-Тикрити – прямые наследники имама Али, зятя пророка Мухаммеда.

Он не посещал школу до девяти лет. Позже пытался поступить в элитарную военную академию в Багдаде, но провалился на первом же экзамене. Это явилось сильным ударом и внушило будущему «рыцарю арабской нации», как называют его иракские СМИ, навязчивую идею власти силы. Кстати сказать, в 1969 году, будучи уже вице-президентом, он прибыл на экзамен с пистолетом на ремне и в сопровождении четверых вооруженных телохранителей. Естественно, что экзаменаторы обошлись без лишних формальностей.

С помощью дяди Саддам переехал в Багдад и поступил в колледж «Аль-Харк». Здесь же в 1954 году он вступил в тайную ячейку партии БААС, идеи которой представляют собой причудливую смесь социализма и арабского национализма.

В Багдад будущий «вождь-борец» (эпитет иракских газет) вернулся после переворота, совершенного партией БААС в феврале 1963 года. Он был одним из тех, кто возглавил кровавые репрессии против инакомыслящих в стране.

Однако он недолго наслаждался плодами победы. Вскоре его партия потеряла власть, и новый режим счел Саддама опасным для себя, посадив его на два года в тюрьму.

Выйдя на свободу, он принял участие в очередном государственном перевороте, совершенном партией БААС в июле 1968 года. Как следует из официальной биографии, он среди первых «въехал на танке во двор президентского дворца».



Фота AP

В течение одиннадцати лет Саддам был «вторым человеком», правой рукой тогдашнего президента Ахмеда Хасана аль-Бакра. 16 июля 1979 года старик аль-Бакр оставил президентское кресло. Говорят, не без помощи Саддама.

Новый президент Ирака тут же развернул очередную крупномасштабную чистку. По его указанию были арестованы 21 руководящий деятель БААС, почти все министры и близкие друзья, с помощью которых он поднялся на вершину власти. После долгих допросов и пыток, в которых участвовал президент, его бывшие соратники были казнены. Кстати, он лично руководил церемонией казни.

Все эти годы тактика багдадского правителя зиждилась на двух «китах». Первое – не доверять никому, кроме представителей своего клана. Другой «кит» президента – физическое устранение всех потенциальных конкурентов. Среди его жертв не только преданные ему люди, но даже родственники. Саддам безжалостен, когда дело касается сохранения собственной власти.

В последние годы в поведении иракского диктатора стали появляться некоторые странности...

Многие из тех, кому довелось накануне войны в Персидском заливе беседовать с ним, обратили внимание на то, что он «потерял чувство реальности, утратил контакт с окружающей действительностью». Президент Египта Хосни Мубарак назвал его «психопатом», а король Саудовской Аравии Фахд – «психически неполноценным».

Английские психиатры пришли к заключению, что его оценка окружающего мира связана с ложным представлением о себе и тех, кто его окружает. Кое-кто из экспертов в своих выводах идет еще дальше. Они считают, что иракский вождь – «злокачественный нарцисс». Вот четыре критерия данного диагноза: мания величия в крайней степени, садистская жестокость, болезненная подозрительность, отсутствие способности к раскаянию.

Мания величия проявляется у Саддама не только в надменности, но и в глубочайшей вере в свою исключительность. Одно время он сравнивал себя с Салах эд-Дином – основателем династии Айюбидов, возглавлявших борьбу мусульман против крестоносцев. Сегодня он отождествляет себя с... вавилонским царем Навуходоносором, который в 587 году до нашей эры разрушил Иерусалим и продержал в плену его жителей много лет. Причем, не только отождествляет. Ему очень хочется, чтобы иракцы верили, что он ведет родословную именно от этого царя.

Мания величия становится хронической, когда ее дополняет убежденность в том, что любое преступление оправдано, если оно ведет к цели. Это кредо иракского эмира.

Дело в том, что Саддам разработал план провозглашения Ирака исламским государством, Багдада – столицей халифата, а себя – эмиром всех правоверных. Больше того, он назначил себя «высшим религиозным авторитетом в вопросах мусульманского права». По ночам Саддам трудится над собственным толкованием Корана. Кроме того, он решил построить (дело явно попахивает книгой рекордов Гиннесса) самую большую в мире мечеть высотой 1.800 метров, шириной 700, рассчитанную на 75 тысяч молящихся.

На Востоке не принято афишировать личную жизнь. Тем не менее известно, что иракский диктатор женат дважды. Его первая жена Саджида выросла со своим мужем, поскольку он ее двоюродный брат. Она – одна из руководительниц Федерации иракских женщин, представляющей собой филиал партии БААС.

История второго брака Саддама получила широкую огласку даже за пределами Ирака. В 1988 году, увидев жену президента авиакомпании «Ирак Эйруэйс», он понял: судьба дарит ему шанс. Саддам предложил мужу дать жене развод. Против этого брака стал возражать шурин Саддама Аднан Хейрала, занимавший тогда пост министра обороны. Вскоре он погиб в авиакатастрофе...

Для полноты портрета можно добавить, что Саддам – заядлый садовод, страстный любитель прогулок на яхте. Он питает слабость к дорогим западным костюмам, иностранным автомобилям – первый его «Мерседес» находится в музее БААС.

В Ираке нет ни одного города, где не было бы мраморного или бронзового памятника «вождю арабской нации». Иракцы шутят: «Если считать население Ирака по головам, то нас будет 36 миллионов – 18 миллионов жителей и столько же статуй Саддама». ■

ПАГАЛОСКІ

# Жерар Депардье поставлен перед выбором

Знаменитому французскому актеру Жерару Депардье, который недавно перенес операцию на сердце, придется отказаться от некоторых свойственных ему привычек. Двенадцать дней назад 51-летний актер был тайно перевезен в больницу под Парижем, где ему была произведена операция аорто-коронарного шунтирования. Сейчас актер находится дома, однако, врачи говорят, что ему придется отказаться от злоупотребления курением и спиртным. По свидетельству друзей актера, до операции он выкуривал в день до трех пачек сигарет без фильтра и выпивал 4–5 бутылок вина, пишет британская газета «Дейли телеграф». Между тем, по словам врача, выполнявшего эту операцию, успех аорто- коронарного шунтирования определяется исключительно за счет строгого воздержания от таких излишеств. Ж.Депардье начал жаловаться на боли в груди этим летом, поэтому решил пройти обследование. Во Франции Ж.Депардье любят не только за актерское мастерство, но и за широкое отношение к жизни, иногда дорого ему обходящееся. Так, два года назад актеру пришлось заплатить около 1,5 тысячы долларов и на три месяца лишиться прав после того, как он упал со своего мотоцикла и сломал ногу. Как выяснила полиция, актер ехал с пятикратным превышением скорости, находясь в состоянии алкогольного опьянения. ■



Фота AP

ИНТЕРФАКС

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка»
УП «Паліграфкамбінат ім. Я.Коласа» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1793 Нумар падпісаны ў друк 24/07/2000 (15:00) Наклад – 8.910